ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №57 (4415) СЕРАДА, 6 ліпеня 1994 года | Кошт па падпісцы — 80 руб., у розніцу — 300 руб.

## НГ-ІНФАРМ

ПАВЕДАМЛЯЕ ПРЭС-ЦЭНТР МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ

## ПАСЯДЖЭННЕ КАНСУЛЬТАЦЫЙНАЙ КАМІСІІ

**Згодна з Пагадненнем паміж Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам нацыянальнай адукацыі Рэспублікі Польшча 14 — 17 чэрвеня 1994 г. у Гродні адбылося першае пасяджэнне сумеснай кансультацыйнай камісіі па справах школы для польскай нацыянальнай меншасці ў Рэспубліцы Беларусь і школы для беларускай нацыянальнай меншасці ў Рэспубліцы Польшча.**

Па дамоўленасці першае пасяджэнне камісіі было прысвечана абмеркаванню праблем школ для польскай нацыянальнай меншасці ў Рэспубліцы Беларусь. Старшыня беларускай камісіі Г.М.Пятроўскі пазнаёміў польскіх калег з заканадаўчай асновай дзейнасці гэтых школ, з сённяшнім станам спраў і з перспектывамі развіцця сістэмы адукацыі нацыянальных меншасцяў.

Падчас пасяджэння бакі абмеркавалі цэлы блок пытанняў, якія маюць прынцыповае значэнне для развіцця гэтых школ. Польскі бок выказаў задавальненне падыходам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь да вырашэння гэтай складанай праблемы і прапанаваў сваю дапамогу ў павышэнні кваліфікацыі настаўнікаў польскай мовы і літаратуры, экспертныя паслугі ў падрыхтоўцы да выдання падручнікаў і навучальных дапаможнікаў.

Па выніках камісіі падпісаны пратакол. Наступнае пасяджэнне камісіі запланавана на верасень — кастрычнік ужо ў Рэспубліцы Польшча з мэтай абмеркавання адукацыйных пытанняў беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

## ШТО, ДЗЕ, КАЛІ

З 3 ліпеня ў Доме тэхнічнай і мастацкай творчасці навучэнскай моладзі экспануецца Рэспубліканская выстава тэхнічнай і мастацкай творчасці навучэнскай моладзі, прысвечаная 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

* * *

З 1 па 3 ліпеня ў Рэспубліканскім цэнтры тэхнічнай творчасці навучэнцаў пройдзе I Рэспубліканская спартакіяда па тэхнічных відах спорту.

* * *

З 2 па 6 ліпеня адбудзецца аўтапрабег "Дарогамі вызвалення", прысвечаны 50-годдзю з дня вызвалення Беларусі.

* * *

З 1 па 30 ліпеня навучэнцы Рэспубліканскага цэнтра тэхнічнай творчасці возьмуць удзел у міжнародных спаборніцтвах па авіямадэлізму (г.Кіеў); па судамадэлізму (Чэхія); па радыёспорту (Швецыя).

* * *

На працягу ліпеня ў Рэспубліканскім палацы піянераў і школьнікаў будзе весціся падрыхтоўка да міжнародных выстаў дзіцячых мастацкіх работ у Францыі і Японіі.

* * *

З 4 па 18 ліпеня пройдзе акцыя "Дзеці — дзецям", у якой калектывы Рэспубліканскага палацу піянераў і школьнікаў пакажуць свае спектаклі. Спектаклі дзіцячых тэатраў лялек і юнацкіх творчых тэатраў прынясуць шмат задавальнення дзецям, што адпачываюць у аздараўленчых лагерах Мінскай вобласці.

* * *

З 2 па 30 ліпеня ў Рэспубліканскім палацы піянераў і школьнікаў працуе выстава "Спяваем разам", прысвечаная Міжнароднаму году сям'і. У выставе прымаюць удзел пазашкольныя ўстановы краіны.

* * *

11 — 16 ліпеня ў Гродзенскай вобласці адбудзецца рэспубліканскі турыстычны злёт школьнікаў.

Віктар ІЎЧАНКАЎ.

## ВЕСТКІ З ГОМЕЛЯ

З 1 верасня ў гарадскім ліцэі № 1 адкрываецца новае гуманітарнае аддзяленне. 20 навучэнцаў будуць тут вывучаць беларускую мову і гісторыю роднага краю.

* * *

Дзіцячым смехам і звонкім гоманам запоўнілася абласная станцыя юных турыстаў. Вучні малодшых класаў займаюцца на трэнажорах, асвойваюць камп'ютэры, авалодваюць турысцкімі навыкамі, ходзяць у аднадзённыя паходы і на экскурсіі.

* * *

На базе дзіцячага сада № 140 адбылося пасяджэнне савета аддзела адукацыі гарвыканкама. Вырашана, што да 1 верасня неабходна завяршыць поўны перавод справаводства і візуальнага афармлення на дзяржаўную мову, а таксама арганізаваць вывучэнне іншых моў, пастаянна ўдасканальваць навучальна-выхаваўчы працэс.

* * *

У абласным Цэнтры творчага развіцця навучэнцаў працуе выстава выяўленчай і дэкаратыўна-прыкладной творчасці вучняў Гомельшчыны. Вырабы гурткоўцаў адлюстроўваюць самабытны беларускі стыль, высокае натхненне і сапраўднае майстэрства юных умельцаў.

Ганна АТРОШЧАНКА.



## НАБЫТКІ І ТЭНДЭНЦЫІ

### НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ КАЛЕГІЯ МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ АБМЕРКАВАЛА Ў ПОЛАЦКУ ПЫТАННЕ "АБ ВЫКАНАННІ ЗАКОНА "АБ АДУКАЦЫІ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ" У ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ"

Калегія адзначыла, што органамі кіраўніцтва адукацыяй і педагагічнымі калектывамі навучальна-выхаваўчых устаноў вобласці праводзіцца пэўная работа па выкананні заканадаўства аб адукацыі, нарматыўных актаў Міністэрства па пытаннях навучання і выхавання дзяцей і падлеткаў, абароны іх правоў, стварэння ўмоў для далучэння моладзі да культурна-гістарычнай спадчыны беларускага народа.

Выканкамы мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, упраўленні і аддзелы адукацыі забяспечваюць фінансаванне навучальна-выхаваўчых устаноў, іх развіццё, камплектаванне педагагічнымі кадрамі, аказваюць неабходную метадычную дапамогу. Дзеючая сістэма адукацыі ў асноўным адпавядае інтарэсам грамадзян і народнагаспадарчага комплексу.

Мэтанакіраваную дзейнасць па выкананні Закона аб адукацыі ажыццяўляюць Віцебскі, Полацкі, Глыбоцкі, Пастаўскі, Міёрскі, Першамайскі раённыя, Віцебскі, Наваполацкі гарадскія аддзелы адукацыі.

Упраўленне адукацыі аблвыканкама паслядоўна вядзе работу па ўдасканаленні сістэмы кіравання. Вызначаны прыярытэтныя накірункі развіцця адукацыі, функцыі ўсіх кіраўнічых звёнаў, узмоцнена арганізацыйная і каардынацыйная дзейнасць. Надаецца ўвага пераходу на новы змест адукацыі, дыферэнцыяцыі ў навучанні і выхаванні, метадычнаму забеспячэнню навучальна-выхаваўчага працэсу, арганізацыі пазашкольнай работы, сацыяльнай абароне і ахове здароўя дзяцей, падрыхтоўцы іх да працы і жыцця.

У многіх сярэдніх школах створаны ўмовы для профільнага і паглыбленага вывучэння прадметаў, пашырыўся ўдзел школьнікаў у алімпіядным руху. Добрыя вынікі паказваюць удзельнікі рэспубліканскіх тураў.

Назапашаны вопыт работы навучальных і пазашкольных устаноў па развіцці творчых здольнасцей дзяцей, арганізацыі іх вольнага часу, працоўным і экалагічным выхаванні. Надаецца неабходная ўвага дзейнасці школ-інтэрнатаў, спецыяльных школ, жыццеўладкаванню дзяцей-сірот і дзяцей, якія маюць недахопы ў фізічным і разумовым развіцці. У прафесійна-тэхнічных вучылішчах адкрыты групы для такіх падлеткаў.

Ва ўмовах новых эканамічных адносін якасна перабудоўваюць дзейнасць з дапамогай мясцовых улад прафесійна-тэхнічныя вучылішчы. Зроблены пераход на падрыхтоўку рабочых па сумяшчальных, складаных прафесіях і прафесіях шырокага профілю, а таксама фермераў, майстроў сельскагаспадарчай вытворчасці.

Ва ўпраўленні і аддзелах адукацыі вызначаны функцыі ўсіх кіраўнічых звёнаў, узмоцнена іх роля ў правядзенні арганізацыйнай і каардынацыйнай работы. Як правіла, кіраўнічыя рашэнні прымаюцца на падставе адпаведнай аналітычнай работы, кантрольных праверак і зрэзаў. На разгляд выканкама абласнога Савета народных дэпутатаў і калегіі ўпраўлення адукацыі выносяцца пытанні, якія тычацца дзейнасці органаў упраўлення і ўстаноў адукацыі, вынікаў работы па асноўных напрамках развіцця адукацыі ў рэгіёнах. Раённыя і гарадскія аддзелы адукацыі вызвалены ад залішняй апекі і рэгламентацыі па стварэнні ўмоў для функцыянавання навучальных устаноў, яны самастойны ў падборы і расстаноўцы кіруючых і педагагічных кадраў, правядзенні педагагічных эксперыментаў, арганізацыі метадычнай работы з настаўнікамі і выхавальнікамі.

Для задавальнення правоў грамадзян на атрыманне агульнай і прафесійнай адукацыі з улікам нацыянальных традыцый, індывідуальных запатрабаванняў і здольнасцяў (артыкул 5 Закона), адкрываюцца навучальна-выхаваўчыя ўстановы новага тыпу, ствараюцца адпаведныя ўмовы у дзеючых. Каля 25% дашкольных устаноў вобласці спецыялізуюцца па пэўных накірунках развіцця дзіцяці і праводзяць паглыбленую работу па мастацкай, музычнай, тэатральна-гульнявай дзейнасці, вывучэнні замежнай мовы. Шэраг дашкольных устаноў, напрыклад, яслі-сады №№ 3, 17, 20 Полацка, №№ 16, 33, 34 Наваполацка, №№ 41, 86 Віцебска працуюць не толькі як установы, дзе выхоўваюцца дзеці, але і як навукова-метадычныя, кансультацыйныя, культурныя цэнтры ў мікрараёне па аказанні неабходнай дапамогі бацькам у сямейным выхаванні дзяцей. У сельскай мясцовасці працуе 23 інтэграваныя навучальна-выхаваўчыя ўстановы "школа-сад".

Амаль усе пачатковыя класы выведзены з камплектаў і працуюць самастойна. У шэрагу тэрыторый (як, напрыклад, — Орша, Верхнядзвінскі, Полацкі, Глыбоцкі і інш. раёны) створаны псіхалагічныя службы, якія аказваюць дапамогу настаўнікам і дзецям у навучанні, распрацоўваюць і апрабіруюць псіхолага-педагагічныя праграмы і тэсты. Гэтую працу ў вобласці вядуць 180 псіхолагаў.

На абласным, раённым узроўнях, ва ўстановах адукацыі вызначаны канкрэтныя напрамкі выхаваўчай работы. Так, створана і ўкараняецца абласная мэтавая праграма па эстэтычным выхаванні. У розных рэгіёнах ідзе работа па праграмах "Экалогія", "Сям'я — падлетак", "Краязнаўства", "Міласэрнасць". У вобласці назапашаны нядрэнны вопыт работы з сям'ёй, супрацоўніцтва бацькоў і педагогаў, склалася цікавая сістэма экалагічнага выхавання дзяцей і падлеткаў.

Абласным аб'яднаннем пазашкольнай работы, інстытутам удасканалення настаўнікаў створана сістэма павышэння кваліфікацыі па праблемах выхаваўчай работы для розных катэгорый педагагічных работнікаў.

Традыцыйна ў вобласці надаецца значная ўвага працоўнаму выхаванню школьнікаў і арганізацыі іх грамадска карыснай, прадукцыйнай працы. Гэта дазваляе станоўча вырашыць пытанне самазабеспячэння вучняў сельскіх школ садавінай і агароднінай, атрымаць дадатковыя фінансавыя сродкі на ўмацаванне матэрыяльнай базы школ.

Калегія адзначыла, што органамі кіравання адукацыяй і педагагічнымі калектывамі навучальна-выхаваўчых устаноў вобласці праведзена поўная работа па выкананні Закона аб адукацыі ў частцы мовы навучання, Закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь". У сістэме дашкольнага выхавання 66,1% дзяцей выхоўваюцца на беларускай мове. (1991 г. — 26% дзяцей). У шэрагу раёнаў усе дзіцячыя дашкольныя ўстановы працуюць на роднай мове. З 821 дзённай агульнаадукацыйнай школы 547 (66,6%) працуюць на беларускай мове, 43 (6,2%) — на рускай, 231 (28,2%) — на беларускай і рускай мовах.

У вобласці надаецца сур'ёзная ўвага своечасоваму размеркаванню выпускнікоў базавых школ па каналах далейшага навучання і працаўладкавання. Два разы ў год з вучнямі праводзяцца субяседаванні, атрыманыя звесткі абагульняюцца ў раўана і ва ўпраўленні адукацыі, прадстаўляюцца ў плануючыя органы.

ПТВ мэтанакіравана пераводзяцца на падрыхтоўку рабочых кадраў па складаных, сумяшчальных прафесіях і прафесіях шырокага профілю. Прыняты меры па прафесійным навучанні найменш сацыяльна абароненай катэгорыі моладзі — выпускнікоў спецшкол, якія маюць недахопы ў разумовым і фізічным развіцці. Для іх адкрыты спецыяльныя групы ў ПТВ №№ 59, 45, 110, 66, 89. Пад кантроль узята прафесійнае навучанне і працаўладкаванне сірот, выпускнікоў школ-інтэрнатаў.

Упраўленнем адукацыі і цэнтрам занятасці вызначаны 33 ПТВ па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы незанятага насельніцтва па 99 прафесіях.

81,1% педагогаў Віцебшчыны маюць вышэйшую адукацыю, што вышэй рэспубліканскага ўзроўню. Лепшы паказчык вобласці мае і па саставу настаўнікаў пачатковых класаў. У сувязі з недахопам спецыялістаў на работу ў школу прыцягнуты 998 педагогаў пенсійнага ўзросту. Пры інстытуце ўдасканалення настаўнікаў адкрыты двухгадовыя вочна-завочныя курсы па перападрыхтоўцы настаўнікаў пачатковых класаў, рускай мовы і літаратуры для работы па спецыяльнасці "беларуская мова і літаратура". Уведзены сумежныя спецыяльнасці для навучэнцаў педвучылішчаў. Для канчатковага вырашэння праблемы поўнага камплектавання школ спецыялістамі гісторыі і замежнай мовы ўпраўленне плануе сёлета пачаць падрыхтоўку гэтых спецыялістаў на базе Наваполацкага універсітэта.

Разам з тым не ўсе аддзелы адукацыі і педагагічныя калектывы настойліва вядуць работу па безумоўным і якасным выкананні заканадаўства аб адукацыі. Калегія адзначыла, што не заўсёды на належным узроўні вядзецца кантроль за дзейнасцю адміністрацыі школ па ўдасканаленні навучальна-выхаваўчага працэсу і ажыццяўленні ўнутрышкольнага кіраўніцтва. Якасць ведаў вучняў у многіх выпадках застаецца невысокай, дапускаецца выбыццё дзяцей са школ без уважлівых прычын да завяршэння базавай адукацыі.

Не ўсюды павышаецца выхаваўчы патэнцыял навучальна-выхаваўчых устаноў, не ўсё робіцца па захаванні сеткі дзіцячых садоў, летнікаў працы і адпачынку, працаўладкаванні выпускнікоў школ, прафілактыцы злачыннасці і правапарушэнняў сярод дзяцей і падлеткаў.

У вобласці прыніжана роля грамадскіх органаў кіравання, прадугледжаных Законам аб адукацыі, у вырашэнні задач дзейнасці навучальна-выхаваўчых устаноў. Патрабуе далейшага ўдасканалення работа органаў па забеспячэнні школ і дзіцячых дашкольных устаноў кваліфікаванымі педагагічнымі кадрамі.

У сувязі з адсутнасцю сродкаў у неабходных памерах навучальна-выхаваўчыя ўстановы адчуваюць цяжкасці ў падрыхтоўцы да новага навучальнага года.

Недахоп сродкаў адмоўна ўплывае на захаванне сеткі дзіцячых садоў, летнікаў працы і адпачынку, аздараўленчых летнікаў, арганізацыі і выніках выхаваўчай работы. Не ва ўсіх тэрыторыях створаны пазабюджэтныя фонды на ўтрыманне ведамасных дашкольных устаноў, недастаткова ўвагі ўдзяляецца перадачы іх на ўтрыманне мясцовым Саветам народных дэпутатаў.

Аналіз дзейнасці пазашкольных устаноў паказвае, што працуюць яны ў асноўным са школьнікамі малодшага і часткова сярэдняга ўзросту. Імі не ахопліваюцца дзеці, якія пражываюць у сельскай мясцовасці. Незанятасць падлеткаў, недахопы ў выхаванні адмоўна ўплываюць на іх паводзіны. У вобласці намецілася негатыўная тэндэнцыя росту дзіцячай злачыннасці. Практычна не выкарыстоўваюцца магчымасці грамадскага ўздзеяння на падлеткаў, схільных да антысацыяльных паводзін, і іх бацькоў. Штогод павялічваецца колькасць дзяцей і падлеткаў, якія своечасова не атрымліваюць базавай і сярэдняй адукацыі.

З заклапочанасцю гаварылася на калегіі пра тое, што структурныя падраздзяленні ўпраўлення не прымаюць канкрэтных дзеянняў па выніках аналітычнай работы, недастаткова займаюцца арганізацыяй кіраўніцтва і кантролю за канкрэтнымі ўчасткамі работы, напрыклад, такімі, як дыферэнцыяванае навучанне, вывучэнне на ўзроўні раёна ці горада выканання Закона аб мовах, усенавуча, якасці ведаў вучняў. Так, калі ў Оршы ў беларускамоўных класах займаюцца 87% першакласнікаў, то ў Наваполацку — 22,1;, у Віцебску — 22,3%. Асабліва непакоіць становішча ў абласным цэнтры, дзе школы марудна пераводзяцца на дзяржаўную мову і працягваецца практыка адкрыцця асобных беларускамоўных класаў. У значнай меры ў беларускамоўных школах не вырашаны і праблемы якасці выкладання прадметаў на беларускай мове. У беларускамоўных школах ёсць выпадкі парушэння моўнага рэжыму, выкладання прадметаў на рускай мове. Наогул, на беларускай мове ў вобласці атрымліваюць адукацыю 65,5% вучняў першых, 58% — другіх, 34,5% — трэціх, 26% — чацвёртых класаў. У Рэспубліцы адпаведна — 76%, 67,8%, 44%, 29,1%. Не змянілася лінгвапедагагічная сітуацыя ў ПТВ. Не прыняты меры па першачарговым пераводу на беларускую мову падрыхтоўкі рабочых кадраў для гандлю, грамадскага харчавання, бытавога абслугоўвання, сувязі, транспарту. Не ўсе вучылішчы перавялі на беларускую мову справаводства.

Не выконваюцца ў поўным аб'ёме і запатрабаванні Закона аб адукацыі ў частцы распрацоўкі неабходнай нарматыўнай базы дзейнасці навучальных устаноў, у прыватнасці, па зацвярджэнні і рэгістрацыі статутаў агульнаадукацыйных школ. Прыніжана роля грамадскасці ў кіраўніцтве навучальна-выхаваўчымі ўстановамі і фарміраванні адукацыйнай палітыкі ў мікрараёнах.

Калегія абавязала ўпраўленне адукацыі Віцебскага аблвыканкама ўхіліць адзначаныя недахопы ў рэалізацыі Закона "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", накіраваць дзейнасць упраўлення на павышэнне аналітычнай і арганізацыйнай работы па вырашэнні задач, пастаўленых перад навучальна-выхаваўчымі ўстановамі ва ўмовах перабудовы эканомікі і сацыяльна-культурнай сферы.

Па абмеркаваным пытанні прынята пастанова.

ФОТАФАКТ

## Першы выпуск

Першы выпуск дыпламаваных спецыялістаў адбудзецца ў гэтыя летнія дні ў Пінскім вучылішчы мастацтваў. Цяпер тут займаюцца 120 адораных юнакоў і дзяўчат. Акрамя спецыяльнасці, яны авалодваюць яшчэ і сакрэтамі акцёрскага і акампаніятарскага майстэрства, харэаграфіі, вывучаюць гісторыю Беларусі, этнаграфію і фальклор палескага краю.

Навучэнцы часта выступаюць з канцэртамі ў Пінску і іншых раёнах Брэстчыны. Ансамбль танца вучылішча "Пінская шляхта" дэманстраваў сваё майстэрства на міжнародным фестывалі фальклорных калектываў.

НА ЗДЫМКАХ:

Тут размяшчаецца Пінскае вучылішча мастацтваў.

Навучэнкі Таццяна Цапко, Марына Вешнявец і Ірына Маскалёва знаёмяцца ў музеі вучылішча з мелодыямі мінулых гадоў.

Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ.



## НГ-ІНФАРМ

### Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

## Аб павышэнні размеру мінімальнай заработнай платы і асобных сацыяльных выплат

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

1. Устанавіць з 1 ліпеня 1994 г. мінімальную заработную плату ў размеры 100000 рублёў, а тарыфную стаўку першага разраду — 110000 рублёў.

2. Міністэрствам і ведамствам, выканкамам мясцовых Саветаў дэпутатаў, кіраўнікам прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, фінансуемых з бюджэту, забяспечыць пераразлік заработнай платы і акладаў работнікаў у адпаведнасці з устаноўленай гэтай пастановай стаўкай 1-га разраду і каэфіцыентамі Адзінай тарыфнай сеткі.

3. Павысіць з 1 жніўня 1994 г. на адзін разрад тарыфныя разрады медыцынскім (фармацэўтычным) і педагагічным работнікам (у тым ліку прафесарска-выкладчыцкаму саставу) устаноў і арганізацый, фінансуемых з бюджэту.

Дзяржаўнаму камітэту па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў унесці адпаведныя змяненні ў раней прынятыя камітэтам пастановы па гэтаму пытанню.

4. Увесці з 1 жніўня 1994 г. для асноўных катэгорый спецыялістаў аховы здароўя, сацыяльнага забеспячэння, адукацыі, культуры, мастацтва, навукі, фізічнай культуры і спорту, устаноў і арганізацый, фінансуемых з бюджэту, надбаўкі да ставак (службовых акладаў), разлічаных у адпаведнасці з Адзінай тарыфнай сеткай, за стаж работы па спецыяльнасці ў адпаведных галінах у наступных размерах: ад 5 да 10 гадоў — 10 працэнтаў, ад 10 да 15 гадоў — 15 і звыш 15 гадоў — 20 працэнтаў службовага акладу.

Дзяржаўнаму камітэту па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва сумесна з Міністэрствам фінансаў і Дзяржаўным камітэтам па статыстыцы і аналізу зацвердзіць па прадстаўленню зацікаўленых міністэрстваў і ведамстваў пераліку пасад гэтых катэгорый спецыялістаў, а таксама палажэнні аб парадку падліку стажу і выплаты штомесячных надбавак за стаж работы вышэйназваным спецыялістам.

5. У мэтах скарачэння цякучасці кадраў у дзяржаўным апараце ўстанавіць з 1 жніўня 1994 г. работнікам, якія ажыццяўляюць тэхнічнае абслугоўванне і забяспечваюць функцыяніраванне дзяржаўнага апарату (якія не адносяцца да служачых дзяржаўнага апарату), надбаўкі да службовых акладаў за выслугу гадоў у наступных размерах: ад 5 да 10 гадоў — 10 працэнтаў, ад 10 да 15 гадоў — 15 працэнтаў і звыш 15 гадоў — 20 працэнтаў службовага акладу.

Дзяржаўнаму камітэту па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў зацвердзіць Палажэнне аб парадку падліку стажу работы работнікаў дзяржаўнага апарату, якія ажыццяўляюць тэхнічнае абслугоўванне і забяспечваюць функцыяніраванне гэтага апарату.

Дзяржаўнаму камітэту па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва, Міністэрству фінансаў даваць тлумачэнні па пытаннях падліку стажу работы вышэйназваных работнікаў.

6. Устанавіць з 1 жніўня 1994 г. работнікам, якія маюць вучоную ступень кандыдата навук, асноўным месцам работы якіх з'яўляюцца арганізацыі навукі, адукацыі, аховы здароўя, культуры, органы дзяржаўнага кіравання і ўлады, фінансуемыя з бюджэту, штомесячныя даплаты ў размеры мінімальнай заработнай платы, незалежна ад займаемай пасады. Рабіць гэтыя даплаты па асноўным месцы работы.

Пашырыць дзеянне пункта 3 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 7 снежня 1993 г. нумар 826 (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1993 г., нумар 34, арт.664) на дактароў навук, працуючых у арганізацыях культуры, фінансуемых з бюджэту.

Рэкамендаваць гасразліковым прадпрыемствам, установам і арганізацыям рабіць указаныя даплаты за кошт уласных сродкаў.

7. Міністэрству сацыяльнага забеспячэння, Міністэрству абароны, Міністэрству ўнутраных спраў, Камітэту дзяржаўнай бяспекі зрабіць пераразлік пенсій за ліпень 1994 г. зыходзячы з новага размеру мінімальнай заработнай платы і выплату розніцы ў пенсіі ў жніўні бягучага года.

Дзяржаўнаму камітэту па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва сумесна з Міністэрствам фінансаў і Фондам сацыяльнай абароны насельніцтва перагледзець размеры дапамог, а кіраўнікам вышэйшых, сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў — размеры дзяржаўных стыпендый.

8. Павялічыць з 1 жніўня 1994 г. у 1,7 раза назначаныя да ўказанай даты дапамогі па беспрацоўю і стыпендыі грамадзянам, якія праходзяць прафесійную падрыхтоўку, павышаюць кваліфікацыю па накіраванню дзяржаўнай службы занятасці.

9. Дзяржаўнаму камітэту па статыстыцы і аналізу забяспечыць разлік індэкса цэн, што характарызуе змяненне кошту спажывецкай карзіны ў адносінах да цэн ліпеня 1994 г., і яго публікацыю ў перыядычным друку.

10. Прызнаць страціўшымі сілу пункты 1, 3, 4 і 7 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 10 сакавіка 1994 г. нумар 136 "Аб дадатковых мерах па сацыяльнай абароне насельніцтва" (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1994 г., нумар 8, арт.113).

Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.КЕБІЧ.

Першы намеснік кіраўніка Спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь А.САКАЛОЎСКІ.

30 чэрвеня 1994 г.
г. Мінск. № 481

* * *

**У пісьмах, званках у "Настаўніцкую газету" педагогі пытаюцца, якім будзе парадак выканання данай пастановы. З гэтым пытаннем наш карэспандэнт Міхаіл Анісенка звярнуўся да начальніка планава-эканамічнага ўпраўлення Міністэрства адукацыі Ліліі АНЦІНАЙ.**

— Нягледзячы на цяжкія эканамічныя абставіны, якія склаліся ў нашай краіне ў апошні час, — тлумачыць яна, — урад, як і раней, вядзе мэтанакіраваную палітыку па сацыяльнай абароне педагагічных і іншых работнікаў, па зніжэнні ўздзеяння вынікаў інфляцыйных працэсаў.

У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў ад 30 чэрвеня 1994 года з 1 ліпеня бягучага года ўстанаўліваецца мінімальная заработная плата ў размеры 100000 рублёў, а тарыфная стаўка першага разраду — 110000 рублёў.

З першага жніўня 1994 года павышаюцца на адзін разрад тарыфныя разрады педагагічным (у тым ліку прафесарска-выкладчыцкаму саставу) і медыцынскім (фармацэўтычным) работнікам устаноў і арганізацый, фінансуемых з бюджэту; для асноўных катэгорый спецыялістаў адукацыі, аховы здароўя, культуры, мастацтва, навукі, фізічнай культуры і спорту ўстаноў і арганізацый, фінансуемых з бюджэту, устанаўліваюцца надбаўкі да ставак (службовых акладаў), разлічаных у адпаведнасці з Адзінай тарыфнай сеткай, за стаж работы па спецыяльнасці ў адпаведных галінах у наступных размерах: ад 5 да 10 гадоў — 10 працэнтаў, ад 10 да 15 гадоў — 15 і звыш 15 гадоў — 20 працэнтаў службовага акладу;

работнікам, якія маюць вучоную ступень кандыдата навук, асноўным месцам работы якіх з'яўляюцца арганізацыі адукацыі, навукі, аховы здароўя, культуры, органы дзяржаўнага кіравання і ўлады, фінансуемых з бюджэту, устанаўліваюцца штомесячныя даплаты ў размеры мінімальнай заработнай платы незалежна ад займаемай пасады. Гэтыя даплаты выплачваюцца па асноўным месцы работы;

павялічаны ў 1,7 раза назначаныя да ўказанай даты дапамогі па беспрацоўю і спыненні грамадзянам, якія праходзяць прафесійную падрыхтоўку, павышаюць кваліфікацыю па накіраванні дзяржаўнай службы занятасці;

гасразліковым прадпрыемствам, установам і арганізацыям рэкамендавана рабіць указаныя даплаты за кошт уласных сродкаў.

Адначасова трэба паведаміць, што пасля зацвярджэння Дзяржаўным камітэтам па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва сумесна з Міністэрствам фінансаў і Дзяржаўным камітэтам па статыстыцы і аналізу пераліку пасад асноўных катэгорый спецыялістаў, а таксама палажэння аб парадку падліку стажу і выплаты штомесячных надбавак за стаж работы спецыялістам, намі будуць апублікаваны каментарыі па гэтых пытаннях у адным з нумароў "Настаўніцкай газеты".

# НГ-ІНФАРМ

ЁСЦЬ МАДЭЛЬ

## ГУМАНІТАРНАЕ ПОЛЕ АГРАРНАГА УНІВЕРСІТЭТА

**За апошнія гады ў Беларускім аграрным тэхнічным універсітэце нямала зроблена ў накірунку гуманітарызацыі адукацыі і выхавання студэнцкай моладзі. Паспяхова працуе факультэт па гуманітарнай падрыхтоўцы студэнтаў, сфармуляваны яго асноўныя мэты, вызначана структура. У склад факультэта ўвайшлі кафедры сацыяльна-гуманітарнага і культуралагічнага цыкла, беларускай і рускай мовы, фізічнай культуры, іншыя падраздзяленні.**

Факультэт вырашае дзве асноўныя задачы: павышэнне якасці, удасканаленне структуры і арганізацыі выкладання гуманітарных дысцыплін, выхаванне студэнцкай моладзі, раскрыццё творчых магчымасцяў асобы, далучэнне яе да агульначалавечых каштоўнасцяў. Уводзяцца новыя гуманітарныя курсы.

Выкладчыкі факультэта актыўна распрацоўваюць новыя праграмы базавых гуманітарных дысцыплін, а таксама спецкурсаў і факультатываў.

Кафедра "Культуры і педагогікі" распрацавала праграму па курсу культуралогіі. Даны прадмет ужо некалькі гадоў паспяхова чытаецца студэнтам інжынернага профілю. Інжынерную адукацыю мы бачым як сінтэз тэхнічнай і гуманітарнай культуры. Выкладанне філасофіі, культуралогіі, паліталогіі і іншых базавых гуманітарных дысцыплін дазваляе наблізіцца да жаданай мэты.

Найвышэйшым патрабаваннем да выкладчыка нашага факультэта з'яўляецца сувязь чытаемых гуманітарных дысцыплін з профілем універсітэта. Акрамя таго, мы ўвялі спецыяльны курс "Гісторыя аграрна-тэхнічнага профілю". Без ведання гістарычнага мінулага сельскагаспадарчай вытворчасці, эвалюцыі аграрных адносін немагчыма зразумець працэсы, якія адбываюцца ў сучасны перыяд, вызначыць тэндэнцыі і перспектывы развіцця гэтага сектара эканомікі. У чытаемым курсе даецца разгляд сутнасці аграрных адносін як сукупнасці вытворчых адносін у сельскай гаспадарцы, якія ў значнай ступені знаходзяцца пад уплывам цэльнай сістэмы эканамічных, сацыяльных, палітычных, культурных, біялагічных і іншых умоў развіцця грамадства на тым ці іншым гістарычным этапе.

Паспяховае развіццё гуманітарных ведаў сёння не можа здзейсніцца на аснове застарэлых схем, традыцыйных ацэнак, псіхалагічных стэрэатыпаў. Антыдагматызм, крытычная накіраванасць, канструктыўнасць, устаноўка на гуманістычны маральны ідэал, зацікаўленыя адносіны да нацыянальнай гісторыі і нацыянальных культурных традыцый — такім павінен быць вынік новых гуманітарных ведаў.

Такі погляд на праблему прымусіў нас шукаць і ўкараняць больш эфектыўныя формы далучэння студэнтаў да гуманітарных ведаў, да духоўных каштоўнасцяў гуманітарнай культуры. Факультэт значна пашырыў і ўдасканаліў функцыяванне ўсёй гуманітарнай інфраструктуры універсітэта.

Мы стварылі адзіную сістэму паглыбленай гуманітарнай падрыхтоўкі, якая аб'ядноўвае некалькі рознабаковых формаў: спецкурсаў, гурткоў, клубаў. Дзейнасць сістэмы паглыбленай гуманітарнай падрыхтоўкі накіроўвае Рада факультэта гуманітарызацыі на чале з рэктарам, членам-карэспандэнтам ААН, прафесарам Л.С.Герасімовічам.

Згодна палажэння аб паглыбленай гуманітарнай падрыхтоўцы, студэнт мае права на працягу трох першых гадоў навучання праслухаць некалькі спецкурсаў па гуманітарных дысцыплінах або стаць слухачом аб'яднання па інтарэсах. Як правіла, усе структурныя падраздзяленні паглыбленай гуманітарнай падрыхтоўкі працуюць у другой палове дня. Колькасць і арганізацыйныя формы гэтай падрыхтоўкі з'яўляюцца мабільнымі і могуць мяняцца ў залежнасці ад пажаданняў і інтарэсаў студэнтаў, а таксама ад арганізацыйных і матэрыяльна-тэхнічных магчымасцяў. Студэнт мае права выбару спецкурса, гуртка, клуба ў адпаведнасці са сваімі схільнасцямі, але ён не мае права адмовіцца зусім.

Сёлета мы прапанавалі студэнтам 20 спецкурсаў гуманітарнага цыкла. Тэматыка іх даволі разнастайная. Значная частка іх мае сувязь з гісторыяй Беларусі, развіццём яе культуры. Вось некалькі назваў на выбар: "Залатая пара ў гісторыі беларускай культуры", "Урокі другой сусветнай вайны", "Службовы этыкет", "Беларускае замежжа: гісторыя і сучаснасць", "Палітычная сістэма ЗША, Англіі, Францыі: параўнальны аналіз", "Актуальныя праблемы геапалітыкі", "Развіццё філасофскай думкі на Беларусі" і шэраг іншых.

У сістэму паглыбленай гуманітарнай падрыхтоўкі ўваходзяць прадметныя гурткі і клубы гуманітарнага напрамку. У іх дзейнасць таксама закладзены прынцып добраахвотнага выбару з улікам асабістых здольнасцяў і інтарэсаў студэнтаў. У прадметных гуртках студэнты не толькі пашыраюць свой кругагляд у якой-небудзь галіне ведаў, яны дадаткова набываюць неабходныя ўменні і навыкі, якія ў будучым можна будзе выкарыстоўваць у прафесійнай альбо грамадскай дзейнасці. Студэнтам, якія паспяхова скончылі аддзяленне паглыбленай гуманітарнай падрыхтоўкі (гурток), выдаецца спецыяльнае пасведчанне.

Сёння ў БАТУ паспяхова працуюць гурткі сацыялогіі, этнаграфіі, краязнаўства, аматараў беларускай мовы і літаратуры, выяўленчага мастацтва і іншыя.

Вельмі складанай задачай у сучасных умовах з'яўляецца арганізацыя выхаваўчай работы са студэнтамі ў другой палове дня. Мы лічым, што для яе паспяховага выканання перш за ўсё неабходна вызначыць прыярытэтныя накірункі. Такімі на сённяшні час для нас сталі фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці і нацыянальнай культуры студэнтаў, іх маральнае і эстэтычнае выхаванне. Менавіта гэтыя сферы выхаваўчай работы асабліва звязаны са светам пачуццяў і інтарэсаў, здольнасцяў і грамадскім самавызначэннем студэнтаў. Яны аказваюць значны ўплыў на асобу маладога чалавека.

У гэтым напрамку таксама ідзе педагагічны пошук.

Пад кіраўніцтвам дэканата факультэта гуманітарызацыі распрацаваны "Маральны кодэкс аграінжынера". У гэтым дакуменце адзначаны асноўныя патрабаванні да маральных і прафесійных якасцяў спецыялістаў сельскай гаспадаркі. "Маральны кодэкс аграінжынера" — своеасаблівы арыенцір для педагогаў БАТУ ў працэсе арганізацыі выхаваўчай работы са студэнтамі.

Наватарскі пошук найбольш эфектыўных форм выхавання студэнтаў прывёў да высновы аб неабходнасці стварэння інстытута педагогаў-псіхолагаў для работы ў студэнцкіх інтэрнатах. Такі інстытут пачаў ужо фарміравацца. Ён таксама ўвайшоў у структуру факультэта гуманітарызацыі. Невялікі тэрмін яго існавання паказаў, што выхаваўчая работа са студэнтамі можа стаць цікавай, творчай, эфектыўнай толькі тады, калі яна пастаўлена на трывалую педагагічную і псіхалагічную аснову.

Цэнтрам эстэтычнага выхавання БАТУ з'яўляецца студэнцкі клуб універсітэта. Будучыя спецыялісты сельскай гаспадаркі маюць магчымасць развіваць свае творчыя здольнасці ў гуртках мастацкай самадзейнасці. Гонарам нашага універсітэта з'яўляецца студэнцкі тэатр "Лантаноіды". Тэатральны калектыў зусім малады, але ўжо добра вядомы нават за межамі нашай навучальнай установы. У 1993 г. тэатр "Лантаноіды" стаў лаўрэатам Рэспубліканскага студэнцкага фестывалю ў Віцебску, дзе заняў першае месца сярод тэатральных калектываў вышэйшых навучальных устаноў Беларусі.

Сёння мы ставім задачу спалучыць эстэтычнае выхаванне студэнтаў з нацыянальным, пашырыць сетку студэнцкіх аб'яднанняў гэтага напрамку. Напачатку 1994 г. ва універсітэце пачаў працаваць гурток традыцыйнага беларускага народнага мастацтва, дзе студэнты БАТУ ўносяць свой уклад у адраджэнне старажытнага беларускага промыслу — саломкапляцення. Да 40-годдзя універсітэта першыя выпускнікі гуртка рыхтуюць сваю выставу.

Яшчэ адным каштоўным падарункам універсітэту ад выкладчыкаў факультэта гуманітарызацыі і студэнтаў стане адкрыццё музея культуры і побыту беларускага сялянства.

Ужо сабрана значная этнаграфічная экспазіцыя, дзе багата прадстаўлены рознакаляровыя беларускія ручнікі, посуд, традыцыйныя прылады працы, вырабы з дрэва, металу, скуры з розных куткоў Беларусі. Усе экспанаты прынесены самімі студэнтамі, якія з вялікай зацікаўленасцю правялі краязнаўча-пошукавую работу. Музей павінен стаць важнай часткай усёй гуманітарнай падрыхтоўкі студэнтаў, яго матэрыялы можна выкарыстоўваць пры выкладанні такіх дысцыплін, як беларусазнаўства, культуралогія, гісторыя аграрных адносін, а таксама ў рабоце гурткоў.

Мадэль дзейнасці факультэта гуманітарызацыі Беларускага аграрнага тэхнічнага універсітэта — адзін з варыянтаў трансфармацыі гуманітарнай падрыхтоўкі на сучасным этапе. Сёння такі факультэт існуе толькі ў БАТУ, але, як нам здаецца, вопыт нашай працы можа быць цікавым і для іншых вышэйшых навучальных устаноў Рэспублікі.

**Антон ПАТАПОВІЧ,**
**дэкан факультэта гуманітарызацыі Беларускага аграрнага тэхнічнага універсітэта,**
**Алена ЛАЗАВАЯ,**
**намеснік дэкана.**

ЛЕТНІ РАСКЛАД

## З ШАПКАЙ ПА КРУЗЕ

Няма на Лепельшчыне звыклых стацыянарных летнікаў, як даўней, калі дзеці адпачывалі ўсё лета. Калі з начлегам, калі ў палатках, калі на прыродзе. Як бы яны ні зваліся, тыя летнікі: ці то піянерскімі, спартыўнымі, ці то працы і адпачынку. Няма... Калі не лічыць адзінага на ўвесь раён спартыўнага летніка, абласнога, у пасёлку Бароўка. У аддзеле адукацыі няма грошай нават на лішні слоік фарбы, не тое што на летнікі. Той смехатворны бюджэт, які быў закладзены яшчэ на пачатку года, даўно з'елі. І як не з'есці, калі давялося во будаваць нечакана-негадана дзве кацельні (пры Матырынскай і пры Горскай школах), а яшчэ пабудавалі цяпліцу для станцыі юных натуралістаў.

А зараз, ведаеце, колькі каштуе адзін толькі кацёл? Па розных, суб'ектыўных і аб'ектыўных, прычынах кацельні выйшлі са строю, а расплачвацца давялося за гэта аддзелу адукацыі, у каго грошы зусім не лішнія. Бо хто ж мог прадугледзець гэтае будаўніцтва ў той час, як закладваўся бюджэт? Вось і даводзіцца зараз эканоміць на ўсім. Балазе, школы таксама навучыліся эканоміць. Асабліва з таго часу, калі большасць з іх адмовілася ад паслуг сістэмы грамадскага харчавання з яе неймаверна высокімі нацэнкамі і пачала карміць дзяцей у школьных сталовых чым пашле бог, ды дзякуючы дзяржаўнай датацыі.

На бога спадзявайся, а сам старайся. Вось і пачалі нарыхтоўваць у школах саленні, варэнні, балазе, на прышкольных участках яшчэ нешта расце, а ў лесе водзіцца ці ягада, ці грыб. І, меўшы галаву ды рукі, можна вунь якія запасы на зіму нарыхтаваць. Рыхтуй сані летам. Вырасла шчаўе — і школы не праспалі таксама...

Адразу ж, напрыклад, у трэцяй Лепельскай школе арганізавалі аперацыю-прагулку "Шчаўе". З аднаго боку, яна арганічна ўпісалася ў праграму экалагічнага выхавання, якая была распрацавана для аздараўленчага летніка "Сонейка". Ну, а з другога боку — няўлежна, дык уежна. Летнік пры трэцяй Лепельскай школе сёлета ўсё ж працаваў. Нават два. "Сонейка" — летнік для маленькіх, дзе былі заняты пяцьдзесят шэсць дзетак з малодшых класаў. А для старэйшых, для васьмікласнікаў, тут пад кіраўніцтвам Соф'і Пятроўны Квяткоўскай быў створаны летнік працы і адпачынку "Равеснік". Адно што працавалі яны ўсяго два тыдні. Не паспелі дзеці паспытаць на поўніцу рамантыку сумеснага адпачынку, як ужо трэба разыходзіцца. Дый начаваць давадзілася дома. Зноў жа, няма сродкаў утрымліваць поўнаменны, паўнацэнны, сапраўдны летнік. Яно, можа, і зручней так: і настаўнікам меней адказнасці, і бацькам спакайней, калі дзіця спіць дома. А толькі ўсё роўна не пакідае пачуццё расчаравання і пякучае настальгіі па тых часінах, калі дзеці маглі спакойна, здарова, весела адпачываць, не думаючы ні аб дзяржаўных датацыях, ні аб індэксацыях бюджэту, ні аб цяжкасцях з абменам валюты, ні аб праблемах на таможні, маглі ехаць улетку хоць на цёплыя паўднёвыя моры, хоць на Прыбалтыйскае узбярэжжа, а хоць у сваё "Зубраня", што на Нарачы.

Праўда, у трэцяй Лепельскай школе вельмі стараліся, каб дзеці меней думалі пра ўсе гэтыя палітыка-эканамічныя рагаткі, якія вынайшлі для іх дарослыя, а болей адпачывалі. Хадзілі тут і ў паходы. Малодшы летнік — бліжэй: у парк, на возера, у лес, дзе праводзілі экалагічныя віктарыны "Ці ведаеш, што расце навокал?", "Пазнай кветку па паху", "Якое гэта дрэва?", дзе ладзілі гульні "Чыя палянка самая лепшая?", дзе бралі ўдзел у аперацыях "Шчаўе", "Зялёная аптэка", дзе ўрэшце проста дыхалі гаючым свежым паветрам. Старэйшы ж летнік хадзіў у сапраўдныя паходы — у Сінягоўскую пушчу, што непадалёк ад вёскі Пышна, альбо і зусім на суседнюю Ушаччыну, пешшу да мемарыяльнага комплексу "Прарыў". Гэтыя мясціны так ці інакш звязаны з баявымі дзеяннямі ў Вялікую Айчынную вайну. А таму былі прымеркаваны да 50-годдзя вызвалення Лепельшчыны і Беларусі ад нямецкага фашызму, з'явіліся часткаю вельмі змястоўнай ваенна-патрыятычнай работы ў летніку.

Акрамя таго, старшакласнікі працавалі: ездзілі палоць буракі ў суседнія калгасы "Радзіма", "Чырвоны партызан", саўгас "Баброва", збіралі каменне. Прапалолі трынаццаць з паловай гектараў буракоў, сабралі дзвесце тон камення. Як бачым, нават каменне ў наш час старанна падлічваецца і мае сваю вагу. Бо грошы з неба не падаюць. Праўда, пакуль што не падаюць яны і з калгасаў — гаспадаркі не спяшаюцца разлічвацца за работу, відаць, заняты іншымі, больш пільнымі справамі. Ну ды, будзем спадзявацца, грошы ў школу паступяць раней, чымся іх паспее праглынуць інфляцыя. Тым болей, што грошы не такія ўжо і маленькія.

Калі ўлічыць выдаткі на сталовую, дзеці, выходзіць, зараблялі ў дзень не меней як дваццаць тысяч. Вядома, не "снікерсы" на базары прадаваць, але дай бог і кожнаму даросламу гэткі заробак. Між іншым, сталовая ў летніку магла б паспрачацца з любым багатым рэстаранам. Штодзённыя салаты са свежых памідораў і гуркоў, сокі, напіткі, розныя ласункі. Згадзіцеся, гэта не так і мала ў час страшэннага авітамінозу, калі некаторыя дзеці дома ведаюць адну хіба леташнюю бульбу, добра, калі з малаком.

Лета — не толькі адпачынак. Гэта для дзяцей адпачынак, а для настаўнікаў... Перш чым атрымаць свае асабістыя "канікулы", класны кіраўнік павінен... адрамантаваць свой клас. Яшчэ аднае немачы не хапала настаўніцкім плячам, як правіла, кволым жаночым плячам, бо класныя кіраўнікі зараз у асноўным жанчыны, часам хваравітыя, знясіленыя за доўгі навучальны год. Ім бы пуцёўачку па даступнай цане, і — махнуць куды далей на поўдзень з гэтага халоднага, нуднага лета, на моры развеяцца, на пясочку паваляцца. Ды пра мора настаў, мабыць, час забыцца зусім — зноў жа, валюта, таможні, цэны, зноў жа, уласныя парнікі на агародзе, якія далёка не адпусцяць і без якіх не абыдзешся. Ды што там... І тут, на Лепельшчыне, чакае мора. Мора праблем, у якія акунаешся з галавою. Калі яшчэ ў сельскай мясцовасці неяк "выплываюць" з рамонтам школ, бо тое-сёе дапамагаюць гаспадаркі, то ў горадзе на гэтыя мэты дзяржавай сёлета не адпушчана ні капейкі. Хочаш — плыві, хочаш — тапіся.

Не было б шчасця — выбары дапамаглі. Тыя школы, дзе былі размешчаны выбарчыя ўчасткі, ухітрыліся (даруй ім, няшчасным, дзяржава) хаця б пафарбаваць калідор за выбарчыя грошы. Класы ж засталіся такімі, якімі пакінулі іх дзеці ў маі: пашарпанымі, парэпанымі. Класы патрабуюць рамонту. І даводзіцца... пускаць шапку па крузе. Даводзіцца звяртацца па дапамогу да бацькоў. І тыя (дзіва!) не ўпарцяцца, не распытваюць лішняга, не бунтуюць, а скідваюцца на рамонт. Ну, а наймаць яшчэ й работнікаў — было б занадта тлуста для школ. У горы жыць і з перцам есці?! Класны кіраўнік памяняў прафесію на будаўнічую.

Няўжо не знойдуцца з галавою людзі, хто падлічыць, што сённяшняе касметычнае падлатванне школ абыдзецца праз два-тры гады масавымі капітальнымі рамонтамі і вылецiць для дзяржавы ў непараўнальна большую капеечку, чымся яна б не паскупілася даць сёння? Альбо праз два-тры гады дзяржава сама збіраецца вылецець... У трубу?..

**Уладзімір МІХНО.**

# НГ-ІНФАРМ

ПАДЗЯЛЮСЯ З ВАМІ

## Ёсць такая прафесія

**Сёлета спаўняецца роўна 30 гадоў, як у Беларусі ўпершыню была распачата падрыхтоўка ў політэхнічным інстытуце дастаткова нязвыклых для тэхнічнай навучальнай установы спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі — інжынераў-педагогаў. Час немалы, аднак і сёння нямногія дасведчаны ў дастатковай ступені аб тым, што гэта за спецыялісты, як іх рыхтуюць і каму яны патрэбны.**

У Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі падрыхтоўка выкладчыкаў тэхнічных дысцыплін і майстроў вытворчага навучання для прафтэхвучылішчаў, каледжаў, ліцэяў і профільных класаў агульнаадукацыйных школ вядзецца па дзённай і завочнай формах. За час навучання студэнты атрымоўваюць грунтоўную тэарэтычную і практычную падрыхтоўку па адпаведнай інжынернай спецыяльнасці, вывучаюць цыкл псіхолага-педагагічных і метадычных дысцыплін, праходзяць педагагічную практыку ў прафесіянальных навучальных установах. Такі спецыяліст з вышэйшай інжынерна-педагагічнай адукацыяй можа паспяхова ажыццяўляць педагагічную, навучальна-вытворчую і арганізацыйна-метадычную дзейнасць, сумяшчаць функцыі майстра вытворчага навучання і выкладчыка спецтэхналогіі і агульнатэхнічных дысцыплін у прафтэхнічных навучальных установах. Асаблівасцю гэтых спецыялістаў з'яўляецца матываваная падрыхтоўка іх да выканання прафесійных функцый выхавацеля.

За многія гады існавання інжынерна-педагагічнай адукацыі ў БДПА падрыхтавана звыш дзвюх тысяч інжынераў-педагогаў. Шэраг з іх займалі і займаюць адказныя пасады і ў сферы адукацыі, і ў гаспадарчай сферы. Больш за сорак з іх абаранілі кандыдацкія і доктарскія дысертацыі.

У самыя апошнія гады ў БДПА назапашаны значныя і карысныя напрацоўкі па ажыццяўленні падрыхтоўкі інжынерна-педагагічных кадраў для прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў па варыянту атрымання студэнтамі другой вышэйшай адукацыі (інжынерна-педагагічнай) паралельна з навучаннем на 3 — 5 курсах на асноўным факультэце па канкрэтнай інжынернай спецыяльнасці.

З 1992-93 навучальнага года на будаўнічым факультэце і факультэце энергетычнага будаўніцтва праводзяцца ў парадку эксперыменту селектыўныя субяседаванні і адбор паспяваючых, мэтанакіраваных, нацыянальна свядомых студэнтаў, якія пажадалі шляхам дадатковай педагагічнай падрыхтоўкі (ДПП) атрымаць, акрамя базавай, акрэсленай інжынернай спецыяльнасці, таксама вышэйшую інжынерна-педагагічную спецыялізацыю з наступным правам весці выкладчыцкую працу ў прафтэхвучылішчах, тэхнікумах, ВНУ.

Для рэалізацыі такой дадатковай падрыхтоўкі прафілюючай кафедрай педагагічных дысцыплін распрацаваны адпаведны навучальны план.

Студэнтам, якія паспяхова асвоілі дысцыпліны навучальнага плана па інжынерна-педагагічнай спецыяльнасці, прайшлі педагагічную практыку і здалі дзяржаўны экзамен па педагогіцы і методыцы выкладання тэхнічных дысцыплін, прысвойваецца ва ўстаноўленым парадку дадатковая кваліфікацыя "Інжынер-педагог".

Па нашым меркаванні, падобны механізм дазваляе, па-першае, найбольш рацыянальным шляхам рыхтаваць для сістэмы адукацыі патрэбную колькасць тэхнічна кваліфікаваных і педагагічна-арыентаваных выкладчыцкіх кадраў па шырокім коле спецыяльнасцяў БДПА нават у самых малакалькасных ("штучных") запатрабаваннях адукацыйнай сферы. Па-другое (а можа гэта варта было б назваць па значнасці першым), такая мадэль поліфанічных форм дыферэнцаванага навучання можа значна садзейнічаць развіццю схільнасцяў, інтарэсаў асобы, яе планаў на будучыню на аснове свабоднага выбару.

Распрацаваны ў БДПА таксама варыянт арганізацыі падрыхтоўкі інжынераў-педагогаў па спецыяльнасці "Прафесійнае навучанне" з ліку асоб, якія ўжо маюць закончаную вышэйшую інжынерную адукацыю. Незалежна ад профілю работы яны маюць магчымасць на працягу двух гадоў вывучаць цыкл псіхолага-педагагічных і метадычных дысцыплін, здаць адпаведныя іспыты і атрымаць права на педагагічную дзейнасць.

Гэты шлях, на нашу думку, павінен зацікавіць дырэктараў тых прафесійных навучальных устаноў, дзе на сённяшні дзень яшчэ працуе шмат майстроў вытворчага навучання і выкладчыкаў, якія маюць якасную інжынерную падрыхтоўку, але не маюць педагагічнага сертыфіката.

У заключэнне хачу шчыра звярнуцца да тых студэнтаў, якія хоць бы выпадкова звярнулі ўвагу на асобныя абзацы маіх разважанняў.

Паважаныя сябры! Калі вы ўпэўнены ў сваіх сілах і жадаеце пашырыць магчымыя гарызонты прадстаячай прафесійнай дзейнасці, калі вы жадаеце смела ўступіць у заўтрашні дзень — то вам выпадае магчымасць у Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі дадаткова атрымаць вышэйшую адукацыю — інжынерна-педагагічную. Больш дакладныя звесткі па тэлефоне 45-41-24.

**Віктар ЖАК,**
**загадчык кафедры педдысцыплін БДПА.**

ФОТАФАКТ



Шасцікласнікі віцебскай сярэдняй школы № 37 занялі першае месца на рэспубліканскім злёце юных інспектараў дарожнага руху. Цяпер дзеці паехалі ў Венгрыю, дзе будуць удзельнічаць у міжнародных спаборніцтвах.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ.

### ЗВЯЗАЛІ ЛЁС СА СЦЭНАЙ

У Гомельскім абласным Доме тэхнічнай і мастацкай творчасці адбылася вечарына, якая была прысвечана юбілейнай даце кіраўніка народнага хору І.П.Галко. Многія выхаванцы Івана Пятровіча назаўсёды звязалі свой лёс са сцэнай, сталі прафесійнымі спевакамі.

### СПРАВАЗДАЧА МЕТАДЫСТАЎ

Гарадскі метадычны цэнтр Гомельскага гарана правёў творчую справаздачу. Аб рабоце і дзейнасці цэнтра расказала загадчыца В.Р.Вялікая. Госці наведалі метадычныя кабінеты, пазнаёміліся з асноўнымі накірункамі псіхалагічнай службы.

**Ганна АТРОШЧАНКА.**

ФАКУЛЬТЭТ КІРАЎНІКА

## ЭФЕКТ ПІГМАЛІЁНА

У загадчыка Кобрынскага райана С.Ф.Сінгалевіча дастаткова аргументаў, каб даць станоўчую характарыстыку кожнаму дырэктару, якіх у раёне трыццаць дзевяць. Знаёмства са школамі сапраўды пацвярджае, што кожны дырэктар мае шмат уласцівых кіраўніку дадатных якасцяў. Асабліва гэта датычыць Васіля Аляксеевіча Петрасюка, дырэктара Корчыцкай дзевяцігодкі.Тут на належным узроўні знаходзіцца навучальна-выхаваўчы працэс. Пры гэтым ці шмат мы можам сёння сустрэць школ, якія поўнасцю забяспечваюць свае сталоўкі прадуктамі харчавання? І не толькі бульбай і капустай. Кожны год нарыхтоўваюцца ў патрэбнай колькасці гуркі, морква, буракі, таматы, шчаўе.

Са школьнага саду збіраецца шмат фруктаў, якія ідуць на прыгатаванне кампотаў, сокаў і сухафруктаў. Між тым, не прападаюць у ваколіцах вёскі плады грушы-дзічкі. Нават цэлы мех сухафруктаў застаўся з мінулага года.

А колькі духмяных рамонкаў, мяты і іншых лекавых раслін нарыхтавана ўжо сёлета. Ва ўсіх памяшканнях школьных будынкаў, нават на кватэры дырэктара, сушацца лекавыя расліны, з якіх узімку для вучняў будуць гатавацца напіткі.

Уся пазакласная работа ў школе накіравана на выхаванне ў вучняў беражлівых адносін да прыроды, да навакольнага асяроддзя. Не выпадкова ўсе лясныя пасадкі ў мясцовым лясніцтве не абышліся без удзелу вучняў Корчыцкай школы. Таму і зляснымі пажарамі, якія адбываюцца часцей за ўсё ў выніку неасцярожных паводзін дарослых, таксама змагаюцца школьнікі.

Вялікую заклапочанасць праяўляе дырэктар Корчыцкай школы пра стан лесу і мясцовага вадасховішча, што забруджваюцца прыезджымі турыстамі. Не адзін рэйд мясцовых школьнікаў быў арганізаваны па ачыстцы наваколля ад бруду і смецця. Між тым пра яшчэ адзін вопыт, варты пераймання, хацелася б напісаць. Бытавыя адходы школы не вывозяцца на звалкі смецця за вёску. Усё хаваецца ў траншэі на школьным агародзе. Такім чынам штучна, інтэнсіўна ўгнойваецца глеба.

Пра няўрымслівы характар дырэктара гэтай школы і яго настаўнікаў можна напісаць шмат. І кожная ініцыятыва, кожная справа заслугоўваюць высокай ацэнкі. Ну хто сёння возьмецца гаспадарчым спосабам будаваць школу? А Васіль Аляксеевіч пры дапамозе мясцовага калгаса, які выступае падрадчыкам, заклаў фундамент прыбудовы да школы. У самой жа школе вабяць вока, асабліва калі ты ўпершыню тут, сапраўдныя творы фларыстыкі. Калі б не сказалі, што гэты цуд створаны рукамі вучняў пад кіраўніцтвам настаўніцы біялогіі, то вырашыў бы, што ў школы з'явіліся вельмі багатыя фундатары.

Загадчык жа райана ўвесь час падкрэслівае, што кожная школа можа ганарыцца сваімі кіраўнікамі. Як тут не прыгадаць, што чалавек шануе сябе так, як яго шануюць іншыя, і ён губляе сваю годнасць настолькі, наколькі адчувае адмоўныя і пагардлівыя адносіны з боку акружаючых. Асоба ўспрымае сябе ў адпаведнасці з тымі характарыстыкамі, якія даюць яму акружаючыя. Гэта ў навуцы найбольш вядома як эфект Пігмаліёна.

Умеюць на Кобрыншчыне рыхтаваць кіраўнічыя кадры ў сістэме адукацыі. Для кожнай школы — асабісты падыход. Вось у Запрудскай дзевяцігодцы шмат гадоў узначальваў педагагічны калектыў Пётр Сцяпанавіч Пушко. Надышоў час ісці ў адпачынак. Асаблівых цяжкасцяў з прызначэннем новага дырэктара не было. Ён вырас тут, на вачах усяго калектыву — гэта сын Пятра Сцяпанавіча — Сяргей. А зараз на поўным сур'ёзе гавораць пра ўнукаў, якія марацъ таксама пасля школы ісці ў настаўнікі. Дырэктарская дынастыя — у школе. Ці дрэнна гэта, калі школа выдатна выконвае свае асноўныя функцыі? Больш таго, выхаванцам гэтай дзевяцігодкі могуць пазайздросціць навучэнцы тэхнічных, мастацкіх вучылішчаў. Таму, што тут вырабляюць вучні з дрэва, тканіны, іншых прыродных матэрыялаў, можа пазайздросціць любая фабрыка мастацкіх вырабаў. І ўсё гэта з густам выкарыстоўваецца ў афармленні школы, яе тэрыторыі. Цікава, што ў вучняў гэтай школы мастацкі густ праяўляецца паўсюдна. Нават на прышкольным участку агародніна не проста культурная расліна, прадукт харчавання, а частка афармлення тэрыторыі, элемент эстэтычнага выхавання.

Здольныя арганізатары, выдатныя педагогі ў раёне — Н.У.Пракапчук са Стрыгаўскай сярэдняй школы, А.Ф.Марчук (Дзівінская СШ), Я.К.Горбіч (Аніскавіцкая СШ), Р.С.Рак (Гарадзецкая СШ). І спіс гэты можна працягваць...

Прыемна здзіўляешся, што ў наш цяжкі час сустракаеш такіх самаадданых дырэктараў, настаўнікаў, якія бескарысліва аддаюць сябе школе, дзецям. Многія з іх маглі б працаваць на іншым месцы, дзе і заробак большы, і своечасова яго выплачваюць, і ніхто іх за гэта не папракнуў бы.

Якая ж роля загадчыка райана ў станаўленні асобы кіраўніка школы?

Перш за ўсё Серафім Фёдаравіч і яго намеснік Зінаіда Вітальеўна Шкутнік значнае месца адводзяць спаборніцтву паміж школамі. Гэта, як яны лічаць, моцны матыватар ва ўдасканальванні як матэрыяльнай базы, так і ўсяго навучальна-метадычнага комплексу школ.

Па-другое, усё, што варта пераймання і ўкаранення ў агульную практыку, прапаноўваецца педагагічным калектывам. Заўважым, не навязваецца. Ва ўсякай навацыі калектывы спачатку павінны адчуць патрэбу, неабходнасць яе ўкаранення, лічыць Серафім Фёдаравіч. Толькі тады можна гаварыць аб іх псіхалагічнай гатоўнасці да ўкаранення ідэі ў практыку.

Такія спосабы ўплыву, як пераканання і прымус з боку кіраўніцтва райана, ужываюцца вельмі рэдка. І не толькі дзякуючы свядомасці дырэктараў школ, а перш за ўсё таму, што эфектыўнасць іх заўсёды невысокая.

Аналізуючы працэдуру прыняцця і выканання рашэнняў кіраўніцтвам райана, міжволі заўважаеш, што іх стыль кіравання грунтуецца на пераканання, а не на прымусе падначаленых. С.Ф.Сінгалевіч звычайна вельмі ўважліва адносіцца да меркаванняў работнікаў райана, дырэктараў школ, настаўнікаў. Ён дае магчымасць падначаленым адчуць уласную значнасць. Таму кожнае рашэнне — гэта перш за ўсё вынік калектыўнай думкі. Работнікі ў такім выпадку задаволены, што іх меркаванні ўлічваюцца і дапамагаюць кіраўніку. Мы часцей за ўсё ўспрымаем гэта як недахоп, а на самай справе — гэта адно з важных якасцяў добрага кіраўніка. Між тым нельга лічыць, што загадчык райана выступае толькі ў ролі нейкага каардынатара. Пры адпаведных абставінах ён прымае рашэнні аднаасобна. Гэта ўзнімае не толькі аўтарытэт, а і павышае асабістую адказнасць за магчымыя пралікі. Адсутнасць сёння фінансавых сродкаў не дазваляе своечасова не толькі рыхтаваць школы да пачатку навучальнага года, а нават у тэрмін выплачваць заробак настаўнікам. Таму даводзіцца амаль кожны раз "ламаць галаву" над тым, ці прафінансаваць будаўніцтва школы ў В.А.Петрасюка, ці выдзеліць грошы на цэмент С.П.Пушко, якія кожны дзень звоняць па тэлефоне, ці выплаціць адпускныя настаўнікам, бо невядома калі зноў з'явяцца сродкі.

Поспех узаемін, якія склаліся паміж райана і педагагічнымі калектывамі, вызначаецца таксама даверам, які атрымалі многія школы па выніках навучальна-выхаваўчай работы. Не турбуюць частымі праверкамі Дзівінскую сярэднюю школу, бо ведаюць, што якасць працы педагогаў адпавядае патрабаванням. У школе не было такога выпадку, каб яе выпускнік на ўступных экзаменах самай прэстыжнай вышэйшай навучальнай установы атрымаў адзнаку ніжэйшую за тую, якая выстаўлена ў атэстат.

Заўважана, што быць добрым кіраўніком — гэта перш за ўсё мець добрыя адносіны з падначаленымі, не зніжаючы, патрабаванняў да іх. Пры добрым кіраўніку становіцца цікавай і праца, а дасягнутыя вынікі ўмацоўваюць пачуццё прафесійнай годнасці. Пры дрэнным — падначаленыя адбываюць аплачваемую працоўную павіннасць.

Асобна можна было б расказаць пра намесніка загадчыка райана З.В.Шкутнік. Класічны стыль размеркавання абавязкаў паміж загадчыкам і яго намеснікам тут парушаецца. Аднак гэта не толькі не перашкаджае справе, а наадварот, спрыяе знаходжанню самых аптымальных варыянтаў вырашэння праблемных пытанняў.

Поспех многіх добрых спраў у сістэме адукацыі ў раёне (як на гэта ўвесь час звяртае ўвагу Серафім Фёдаравіч) забяспечаны той увагай, якую ўдзяляе старшыня Кобрынскага райвыканкама Я.А.Раўнейка.

У раёне шмат школ працуюць у прыстасаваных памяшканнях. А гэта значыць, што адсутнічаюць не толькі тыпавыя праекты школ, а таксама і настаўніцкія кватэры, якія звычайна будуюцца за капітальныя сродкі разам з будаўніцтвам школы. Дык вось, тут знайшлі магчымасць за сродкі мясцовага бюджэту і будынкі пераабсталяваць, і кватэры для настаўнікаў пабудаваць. Таму нават у аддаленых вёсках школы добра забяспечаны настаўніцкімі кадрамі. А кіраўнік выканаўчай улады, пры тым, што сёння праблем і цяжкасцяў не пералічыш, і перш за ўсё ў вытворчай сферы, знаходзіць час, каб прыняць удзел у савеце райана ці заехаць у школу, дзіцячы сад.

**Мікалай ФЯСЬКОЎ,**
**галоўны эксперт упраўлення аналітычнай работы і перспектыўнага развіцця адукацыі Міністэрства адукацыі, кандыдат педагагічных навук.**

АНАЛІЗУЕМ — ГЛЯДЗІМ НАПЕРАД

# ПАТЭНЦЫЯЛ ІНСТРУМЕНТА МЫСЛЕННЯ

## ВЫКАРЫСТАННЕ ВЫЛІЧАЛЬНАЙ ТЭХНІКІ Ў НАВУЧАЛЬНЫМ ПРАЦЭСЕ

З моманту ўключэння ў навучальныя планы сярэдніх навучальных устаноў курса "Асновы інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі" прайшло ўжо восем гадоў, і зусім дарэчы паспрабаваць зрабіць некаторыя высновы.

У сістэме адукацыі склаліся наступныя накірункі выкарыстання інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі: як яе тэхнічнай базы; як прадмета вывучэння; як сродку навучання; як інструменту аналізу і арганізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу; як прылады аўтаматызацыі кіраўніцкіх функцый устаноў адукацыі.

На працягу мінулых васьмі гадоў у нас вырашалася, галоўным чынам, першая задача, г.зн. вывучэнне ўласна інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі. Адзначым, што тут дасягнуты значныя поспехі: з'явілася тэхніка, падрыхтаваны настаўнікі-прафесіяналы, ёсць навучальная і метадычная літаратура, базавае праграмнае забеспячэнне. Вядома, на гэтым шляху былі памылкі і пралікі. Адна з памылак заключалася ў тым, што не было праведзена апераджальнай падрыхтоўкі кіраўнікоў навучальных устаноў і ўстаноў адукацыі, і яны аказаліся псіхалагічна і прафесійна не гатовы да кіраўніцтва працэсам укаранення камп'ютэраў у навучальны працэс і, значыць, не зрабілі ў поўным аб'ёме тое, што маглі зрабіць.

Да цяперашняга часу адбылося пераасэнсаванне глабальнай ролі інфарматыкі для грамадства ў цэлым і адукацыі ў прыватнасці. Шмат якія педагогі і даследчыкі адназначна ацэньваюць патэнцыял камп'ютэра як інструмента мыслення і навучальнага сродку, што дазваляе ажыццявіць інтэграваны падыход да забеспячэння якасных змен у структуры, змесце і працэсе навучання. Інфарматыка заклікана стаць дзейсным інструментам павышэння ўнутранай і знешняй эфектыўнасці сістэмы адукацыі, а новыя інфармацыйныя тэхналогіі (НІТ), з улікам іх важнай ролі ў кожным грамадстве, павінны стаць неад'емнай часткай культуры, даступнай усяму насельніцтву.

Тым самым размова ідзе аб стварэнні і выкарыстанні камп'ютэрных тэхналогій навучання (КТН) на аснове выкарыстання НІТ.

Тэхналогія навучання па вызначэнні ЮНЕСКО — гэта сістэмны падыход да стварэння, прымянення і вызначэння ўсяго працэсу выкладання і засваення ведаў з улікам тэхнічных і чалавечых рэсурсаў і іх узаемадзеяння. Ён ставіць сваёй задачай аптымізацыю формаў навучання.

Камп'ютэрная тэхналогія навучання — такая тэхналогія, у якой асноўным тэхнічным сродкам навучання з'яўляецца камп'ютэр, забяспечаны педагагічнымі праграмнымі сродкамі і іншай інфармацыйнай падтрымкай. Камп'ютэрная тэхналогія навучання базіруецца на шырокім выкарыстанні так званых новых інфармацыйных тэхналогій у навучанні як сукупнасці ўкараняемых у сістэму адукацыі прынцыпова новых метадаў і сродкаў апрацоўкі даных, перадачы, захоўвання і адлюстравання інфармацыйнага прадукта, прычым з найменшымі затратамі часу і ў адпаведнасці з заканамернасцямі навучальна-выхаваўчага працэсу. Камп'ютэр можа выкарыстоўвацца ў навучальным працэсе ў наступных выпадках: выкананне матэматычных разлікаў з вынікам у выглядзе лічбы, табліцы лічбаў, графіка функцыі; правядзенне лабараторных эксперыментаў у выглядзе камп'ютэрнай імітацыі; выкананне кантрольна-ацэначных і ўліковых функцый; камп'ютэр як крыніца інфармацыі; рэдагаванне тэкстаў; камп'ютэрныя гульні.



Выніковасць камп'ютэрнай тэхналогіі навучання дасягаецца за кошт індывідуалізацыі і інтэнсіфікацыі навучальнага працэсу. Прагледжваюцца наступныя шляхі ажыццяўлення прынцыпу індывідуалізацыі: адзін камп'ютэр — адзін навучаемы; уваходны кантроль зыходнага ўзроўню ведаў, уменняў і навыкаў навучаемага; дыферэнцыяцыя заданняў у залежнасці ад вынікаў уваходнага кантролю; магчымасць індывідуальнага тэмпу праходжання навучальнага матэрыялу; магчымасць непасрэднай і сістэматычнай карэкціроўкі сваіх адказаў, права вучня на памылку. Шляхамі ажыццяўлення прынцыпу інтэнсіфікацыі з'яўляюцца: магчымасць паскоранага і больш поўнага атрымання інфармацыйных і дыдактычных матэрыялаў; наяўнасць зваротнай сувязі, г.зн. здольнасць камп'ютэра аператыўна і канкрэтна рэагаваць на кожны адказ; прывабнасць у афармленні камп'ютэрных праграм, гульневыя элементы, выкарыстанне гуку і колеру, г.зн. усяго таго, што садзейнічае павышэнню цікавасці да прадмета, жаданню зрабіць больш і лепш.

У састаў навучальнага забеспячэння пры камп'ютэрнай тэхналогіі навучання ўваходзіць навучальна-метадычнае, праграмна-метадычнае, тэхнічнае забеспячэнне, а таксама комплекс арганізацыйных мерапрыемстваў.

Стварэнне, а тым больш укараненне ў навучальны працэс КТН звязана з вялікай папярэдняй работай. Па-першае, неабходна мець дакладную навукова-абгрунтаваную педагагічную канцэпцыю КТН. Па-другое, трэба загадзя навучыць настаўнікаў карыстанню тымі эфектыўнымі праграмнымі сродкамі (сістэмы кіравання базамі даных, электронныя табліцы, экспертныя сістэмы, аўтаматызаваныя навучальныя сістэмы, гіпермедыа і да т.п.), якія ўжо створаны для розных тыпаў камп'ютэраў. А для гэтага патрэбен шырокі спектр навучальна-метадычнай літаратуры для настаўнікаў, напачатку ў выглядзе тэкставых файлаў на дыскетах. Па-трэцяе, неабходна перабудова сістэмы павышэння кваліфікацыі і атэстацыі педагагічных работнікаў, якія, хаця б на перыяд вучобы, павінны быць паглыблены ў новае інфармацыйнае асяроддзе. Нарэшце, адзначым, што ўкараненне ЭВМ у сістэму навучання ў значнай ступені адрозніваецца ад укаранення ЭВМ у прамысловую вытворчасць, бо педагог з'яўляецца адказным за клас, які ён вядзе, і ніхто не можа яго прымусіць сілай прымяняць ЭВМ у навучанні. Такім чынам, матывіроўка педагогаў — фактар, які вызначае поспех такой складанай аперацыі, як укараненне ЭВМ у навучанне.

**Альварас ПАЎЛОЎСКІ,**
загадчык кафедры
прыкладной матэматыкі
Беларускага дзяржаўнага
педагагічнага універсітэта,
прафесар.

ЭКАНАМІЧНАЯ АДУКАЦЫЯ

# ШКОЛА Ў ХВАЛЯХ РЫНКУ

## ПАЧАТАК ПАЧАТКАЎ

У базавай 9-гадовай школе з 8 класа пачынае вывучацца абавязковы курс "Чалавек і грамадства" (1 гадзіна ў тыдзень, 34 гадзіны за навучальны год). Менавіта ў ім вучні атрымліваюць першыя сістэматызаваныя звесткі аб эканоміцы. Частка юнакоў і дзяўчат пасля 9 класа пачынае самастойную працоўную вытворчую дзейнасць, таму ў гэтым прадмеце ўзмоцнены раздзел па эканамічнай праблематыцы, каб выпускнікі маглі атрымаць элементарныя веды па эканамічных, прававых і працоўных пытаннях. З такім, шчыра скажам, не дужа багатым багажом ведаў яны ўступаюць у рыначную эканоміку.

У 10—11 класах сярэдняй школы ў тым жа курсе, але ўжо больш паглыблена, працягваюць вывучацца эканамічныя праблемы грамадства. Атрыманыя тут веды складаюць аснову наступнай агульнаэканамічнай падрыхтоўкі моладзі ў рамках неэканамічных спецыяльнасцяў сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў.

У рамках гісторыка-грамадазнаўчага цыкла сярэдняй школы (10—11 класы), які ўключае ў сябе гістарычны, правазнаўчы, грамадазнаўчы (сацыялогія, паліталогія, сацыяльная псіхалогія, этыка, эстэтыка, логіка, філасофія) і эканамічны накірункі, з 1994-95 навучальнага года ўводзіцца абавязковы профільны прадмет "Асновы эканамічных ведаў" з разліку 2 гадзіны ў тыдзень, агульным аб'ёмам 136 акадэмічных гадзін. Па сваім змесце "Асновы эканамічных ведаў" адпавядаюць заходняму тэарэтычнаму курсу "Эканоміка", або "Volkswirtschaftslehre". Гэтым прадметам будзе ахоплена каля 25 працэнтаў усіх вучняў сярэдняй школы. А тыя, хто захоча ў далейшым атрымаць эканамічныя спецыяльнасці, маюць магчымасць вывучаць на паглыбленым узроўні яшчэ адзін дадатковы прадмет "Эканамічная і прадпрымальніцкая дзейнасць" у аб'ёме 7 гадзін у тыдзень у 10-м і 8 гадзін — у 11-м класах (у агульнай складанасці каля 540 гадзін за два навучальныя гады). Гэта ўжо грунтоўная перадвузаўская эканамічная падрыхтоўка. На жаль, пакуль што нямногія сярэднія школы змогуць арганізаваць для невялікага кантынгенту школьнікаў вывучэнне данага прадмета.

Такім чынам, удасканаленне агульнай эканамічнай адукацыі ідзе галоўным чынам па шляху насычэння іншых школьных прадметаў — перш за ўсё курса "Чалавек і грамадства", а таксама гісторыі і геаграфіі — масівам эканамічных ведаў. Уводзіцца ў навучальныя планы сярэдняй школы ў якасці профільнага для гісторыка-грамадазнаўчага цыкла і прадмет "Асновы эканамічных ведаў" і прафесійна-арыентаваны курс "Эканамічная і прадпрымальніцкая дзейнасць".

## СПЕЦЫЯЛІСТ НАРАДЖАЕЦЦА Ў КЛАСЕ

Зусім новымі элементамі сталі, па-першае, стварэнне эканамічных класаў, па-другое, арганізацыя школ эканамічнага профілю, па-трэцяе, стварэнне для вучняў сярэдняй школы (10—11 класы) камерцыйных тыпаў навучальных устаноў (ліцэяў, каледжаў, прыватных фірмаў, курсаў). Ва ўсіх гэтых выпадках размова ідзе ўжо не аб агульнай эканамічнай, а аб прафесійна арыентаванай адукацыі. Яе можна разглядаць як перадумову прафесійнай эканамічнай адукацыі альбо сярэднеспецыяльнай, альбо вышэйшай.

**Эканамічныя класы агульнаадукацыйнай школы.** Іх стварэнне было прадвызначана планамі на 1992-93 навучальны год, распрацаванымі і зацверджанымі Міністэрствам адукацыі. Так, ужо ў 1992-93 годзе было зарэгістравана 40 эканамічных класаў у 13 школах. Хоць навучальнымі планамі прадугледжана стварэнне такіх класаў з 8-га па 11-ы, аднак школы пайшлі далей, сям-там ахапіўшы нават і пачатковыя. Яны ствараюцца перш за ўсё ў абласных цэнтрах і гарадах, дзе ёсць адпаведныя вышэйшыя або сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы.

Як правіла, паміж ВНУ або ССНУ і агульнаадукацыйнай школай заключаецца пагадненне аб супрацоўніцтве, у адпаведнасці з якім першае бярэ на сябе навучальна-метадычнае і кадравае забеспячэнне педагагічнага працэсу ў частцы выкладання эканамічных прадметаў. А такіх дысцыплін дзве: "Уводзіны ў эканоміку" і "Асновы прадпрымальніцтва". Першая вывучаецца з 8 па 11 клас з разліку 1 гадзіна ў тыдзень (агульная колькасць урокаў за ўвесь курс складае 136 гадзін). "Асновы прадпрымальніцтва" вывучаюцца з 9 па 11 клас па 2 гадзіны ў тыдзень, што ў агульнай складанасці мае таксама 136 гадзін. Апрача гэтага, у цыкл прафілюючых уваходзяць наступныя прадметы: матэматыка і інфарматыка; эканамічная геаграфія Беларусі і свету; асновы справаводства і машынапісу (у тым ліку і на ЭВМ). Іх выкладаюць настаўнікі агульнаадукацыйных школ, але на больш паглыбленым узроўні за кошт павелічэння гадзін. У асобных эканамічных класах, апрача названых прафілюючых прадметаў, упор робіцца і на вывучэнне замежных моваў.

Акрамя двух абавязковых уласна эканамічных прадметаў, за кошт школьнага кампанента навучальных планаў вучням профільных класаў могуць быць прапанаваны спецкурсы і факультатывы па адпаведнай праблематыцы. Навучальным планам для 10—11 класаў можа быць адведзена дадаткова да 7 гадзін у тыдзень у 10-м і да 8 гадзін у тыдзень у 11 класе на паглыблены прадмет — эканамічная і прадпрымальніцкая дзейнасць. Такім чынам, агульнаадукацыйныя школы маюць неабходную і дастатковую колькасць навучальнага часу для арганізацыі эканамічных класаў, а таксама школ з эканамічным профілем.

Стварэнне арганізацыйных перадумоў будзе стымуляваць рост такіх класаў у бліжэйшыя гады, бо цікавасць да эканамічнай адукацыі ў апошні час у насельніцтва ўстойлівая. Больш таго — прэстыж асобных эканамічных спецыяльнасцяў — адзін з самых высокіх. Агульнаадукацыйныя школы аб'ектыўна зацікаўлены ва ўстанаўленні найцяснейшых сувязяў і кантактаў з базавымі ВНУ і ССНУ, бо такое супрацоўніцтва гарантуе выпускнікам эканамічных класаў самы высокі працэнт паступлення. Школы хацелі б увесці ў практыку палажэнне, калі выпускныя экзамены станавіліся б адначасова ўступнымі ў ВНУ і ССНУ. Гэта б дазволіла ўзняць аўтарытэт эканамічных класаў у вачах бацькоў, а таксама патэнцыяльных фундатараў. Размова ідзе такім чынам аб стварэнні элітарных, але дзяржаўных школ.

Калі з арганізацыйнага пункту гледжання многія пытанні стварэння эканамічных класаў вырашаны, то ў сэнсе навучальна-метадычнага забеспячэння паўстае шмат праблем. Абазначым толькі некаторыя з іх.

Перш за ўсё няма кантролю за якасцю выкладання спецыяльных прадметаў. І калі навучальныя планы яшчэ зацвярджаюцца ў Міністэрстве адукацыі, то змест эканамічнай адукацыі розны і не мае ніякіх агульнапрынятых дзяржаўных стандартаў і патрабаванняў. А паколькі кожны настаўнік працуе фактычна па аўтарскай праграме, то не вызначаны трывалы масіў неабходных эканамічных ведаў. Таму якасць адукацыі не можа быць высокай, тым больш, што поўнасцю адсутнічае навучальна-метадычны камплект па спецыяльных прадметах. У Рэспубліцы ж няма ніводнага навучальнага падручніка па эканоміцы для школьнікаў.

Па-другое, у агульнаадукацыйных школах няма ніводнага дыпламаванага эканаміста-выкладчыка. Больш таго, сістэма павышэння кваліфікацыі не мае адпаведных курсаў.

Па-трэцяе, эканамічныя прадметы з'явіліся афіцыйна ў навучальных планах школ толькі з 1992-93 навучальнага года, таму, вядома, адсутнічаюць традыцыі і методыка іх выкладання.

Мы толькі абазначылі кола нявырашаных праблем у галіне як агульнай, так і прафарыентацыйнай эканамічнай адукацыі. Разам з тым яна на сённяшнім пераломным этапе развіцця нашага грамадства — адзін з самых перспектыўных накірункаў адукацыйнай палітыкі, бо само далучэнне дзіцяці ў раннім узросце да эканамічнай праблематыкі з'яўляецца пазітыўным з пункту гледжання станаўлення яго як асобы.

Эканамічныя класы, якія ствараюцца ў агульнаадукацыйных школах, перарастуць уласны статус па меры назапашвання неабходных ведаў і вопыту у арганізацыі навучальнага працэсу, адпрацоўцы зместу эканамічнай адукацыі, яе спецыялізацыі. І тады на іх базе будуць стварацца

**Школы з эканамічным профілем.** Практыка дзейнасці такіх школ на цяперашні момант небагатая. Першымі ў Рэспубліцы яны з'явіліся ў Мінску (№45) і Брэсце (№11).

Для набыцця статуса школы з эканамічным ухілам, які вызначаецца Міністэрствам адукацыі, неабходна наяўнасць у кожным патоку (з першага па адзінаццаты) хаця б аднаго эканамічнага класа. Так, у 45-й школе Мінска ў 1993-94 навучальным годзе створана 15 эканамічных класаў. Адпаведны статус дазволіў на аснове павелічэння нагрузкі дадаткова прыняць на работу трох настаўнікаў, у тым ліку псіхолага, за кошт дзяржаўных сродкаў. А ўсяго тут занята 10 педагогаў.

Галоўнай асаблівасцю памянёных школ з'яўляецца не адміністрацыйна-тэрытарыяльны прынцып набору, а прыём па жаданні вучняў з усяго горада. Гэтак жа, як і ў эканамічных класах у рамках звычайнай школы, школа з эканамічным ухілам мае пагадненне аб супрацоўніцтве з пэўнай ВНУ. Напрыклад, 45-я заключыла дагавор з Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэтам — з факультэтам давузаўскай падрыхтоўкі. Асаблівасцю тут з'яўляецца плата бацькоў за навучанне дзяцей, што дае частковую самаакупляльнасць. Гэта звязана з тым, што для выкладання спецпрадмета прыцягваюцца з ВНУ высокакваліфікаваныя спецыялісты, як правіла, з вучоным званнем. Аплата ж школьнага настаўніка вышэйшай катэгорыі складае ўсяго 55 працэнтаў ад пагадзіннай аплаты выкладчыка ВНУ. Розніца папаўняецца за кошт бацькоўскіх сродкаў. Апрача гэтага, грошы ідуць на распрацоўку аўтарскіх праграм і развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы.

Навучальны план 45-й школы вельмі арыгінальны. Ён хаця і ўлічвае прынцыпы, распрацаваныя міністэрствам, у прыватнасці наяўнасць дзяржаўнага і школьнага кампанентаў, але мае і адрозненні. Першае — эканамічныя класы ствараюцца ўжо ў пачатковай школе. Другое — сам набор прадметаў — эканамічнага і развіццёвага характару. Што датычыцца апошніх, то размова ідзе аб логіцы, псіхалогіі, шахматах, камп'ютэрных гульнях. Спецыяльныя прадметы, у адрозненне ад праграмы эканамічных класаў, больш канкрэтызаваныя, напрыклад, вывучаецца бухгалтарскі ўлік.

Вось пералік прадметаў эканамічнай накіраванасці і прафілюючых дысцыплін па трох ступенях. Пачатковая школа (1—4 класы) — камп'ютэрныя гульні, шахматы, логіка, замежная мова; базавая школа (5—9 класы) — псіхалогія, экалогія, асновы камп'ютэрнай граматы, гісторыя беларускай культуры, займальная эканоміка, праграмаванне, эканоміка; сярэдняя школа (10—11 класы) — праграмаванне, эканоміка, маркетынг, менеджмент, рэклама, справаводства і машынапіс, бухгалтарскі ўлік, грошы і крэдыт. Навучальны план распрацаваны сумесна з БДЭУ. Магчыма, асобныя прадметы, паслядоўнасць іх вывучэння, логіка самога зместу эканамічнай адукацыі небездакорныя, аднак зробленае заслугоўвае ўхвалення і ўважлівага вывучэння.

Сама арганізацыя педагагічнага працэсу мае пэўную спецыфіку дзякуючы ўдзелу педагогаў ВНУ. Так, эканамічныя прадметы вывучаюцца, як правіла, у суботу і маюць "плаваючы" расклад, а самі заняткі на працягу тыдня праводзяцца выключна ў першую змену. Акрамя таго, вучні старэйшых класаў не наведваюць навучальна-вытворчыя камбінаты. Функцыю навучання рабочым прафесіям узяла на сябе сама школа, якая дае кваліфікацыю сакратара-рэферэнта. Аснову для такой прафесійнай дзейнасці складаюць справаводства, машынапіс, работа на ЭВМ, а таксама веданне эканомікі. Таму ўжо адразу пасля заканчэння школы выпускнікі маюць прафесію і атрымліваюць пэўную гарантыю працаўладкавання. Акрамя гэтага, па ўсіх прадметах эканамічнай і профільнай накіраванасці яны павінны атрымаць залік, які праводзіцца ў вуснай або пісьмовай форме пасля заканчэння вывучэння таго або іншага прадмета. У атэстаце побач з базавымі прадметамі стаяць ацэнкі "залічана" па эканамічных і профільных прадметах з указаннем часу, выдаткаванага на іх вывучэнне.

Выпускнікі школ з эканамічным ухілам такім чынам атрымліваюць добрую прафесійна-арыентаваную эканамічную адукацыю, якая з'яўляецца асновай наступнай спецыялізаванай падрыхтоўкі.

## БУРУНЫ ЛЯ ПАРОГАЎ

Аднак пры паступленні ля парогаў дзяржаўных ВНУ, нават маючых эканамічныя спецыяльнасці, уключаючы і БДЭУ, узнікаюць буруны: факт заканчэння школы з эканамічным профілем чамусьці амаль не ўлічваецца, яе выпускнікі нароўні з усімі астатнімі здаюць уступныя экзамены, і толькі пры аднолькавай са звычайнымі абітурыентамі колькасці набраных балаў ім аддаецца перавага. Другой "ільготай" з'яўляецца залічэнне на платныя эканамічныя спецыяльнасці ў дзяржаўныя і прыватныя вышэйшыя і сярэднеспецыяльныя навучальныя ўстановы. Ідэя ж школы аб правядзенні сумесных выпускных-уступных экзаменаў не знаходзіць падтрымкі з боку БДЭУ: конкурс сюды стабільна высокі, браніраванне месц тут лічаць немэтазгодным.

І таму ў перспектыве намячаюцца дзве тэндэнцыі. Першая: побач з эканамічнымі класамі будуць аб'ектыўна існаваць і звычайныя агульнаадукацыйныя. Больш таго, за бацькамі захоўваецца права пераўтварэння эканамічнага класа ў агульнаадукацыйны, гэта значыць вяртанне "на кругі свая". Можна меркаваць, што калі школе і ВНУ ў пытанні залічэння ў студэнты не ўдасца знайсці прымальны для абодвух варыянт, то само існаванне спецыялізаваных класаў можа стаць праблематычным.

Другая тэндэнцыя — далейшае самаразвіццё профільнай школы з перспектывай пераўтварэння ў эканамічны ліцэй. У гэтым выпадку давядзецца адмовіцца ад такой дэмакратычнай працэдуры, як выбар паміж эканамічным і агульнаадукацыйным класам. Гэта надасць навучальнай установе больш спецыялізаваны характар, дазволіць узняць узровень выкладання, перш за ўсё эканамічных прадметаў.

Але пры гэтым узнікае прынцыповае пытанне аб характары эканамічнай адукацыі — яшчэ не прафесійнай, але ўжо спецыялізаванай. Як бачна, выпускнікі такога ліцэя не павінны (ды і наўрад ці змогуць!) атрымаць сярэднеспецыяльную эканамічную адукацыю. Гэта будзе нешта прамежкавае паміж ёю і рабочай прафесіяй. Але пералік уласна рабочых спецыяльнасцяў у эканамічнай галіне даволі абмежаваны (сакратар-рэферэнт, памочнік менеджэра і яшчэ нешта падобнае), г.зн. пералік трэба будзе перагледзець. У гэтым жа кантэксце паўстае пытанне аб суадносінах узроўню адукацыі паміж эканамічным ліцэем, з аднаго боку, і навучальна-вытворчым камбінатам і прафесійна-тэхнічным вучылішчам — з другога. Тым самым стаіць праблема стандарту. Магчыма, ліцэй трэба разглядаць як навучальную ўстанову пры ВНУ і ў гэтым выпадку як падрыхтоўчую, перадвузаўскую форму навучання. Але пры гэтым ступень каардынацыі навучальных планаў, навучальных праграм ліцэя і ВНУ мусіць быць прынцыпова іншай.

Далейшае стварэнне як ліцэяў, так і проста школ з эканамічным профілем мае і чыста тэхнічныя праблемы. Усе вядомыя ліцэі як новыя тыпы навучальных устаноў нацыянальнай сістэмы адукацыі ў якасці мовы навучання выбіраюць дзяржаўную, г.зн. беларускую. На жаль, беларускамоўная эканамічная тэрміналогія яшчэ знаходзіцца ў стадыі станаўлення, ды і сам масіў эканамічных ведаў з галіны мікра- і макраэканомікі не ўстаяўся. Забяспечыць жа кваліфікаванае выкладанне эканамічных прадметаў на беларускай мове ў даны момант — справа надзвычай складаная. Другая праблема — гэта высокая нагрузка, што выпадае на школы наогул і ў новых раёнах, такіх, як Уручча, дзе размешчана 45-я, у прыватнасці. Куды падзець астатніх дзяцей мікрараёна? Акрамя гэтага, калі на базе 45-й школы з аднаго боку захаваць звычайную агульнаадукацыйную школу, а з другога — стварыць эканамічны ліцэй, то давядзецца і адзіную адміністрацыю падзяліць на дзве часткі, што ў будучым пагражае канфліктамі з-за матэрыяльна-тэхнічнай базы, на глебе фінансавых праблем і сацыяльных пытанняў. Не могуць жа два шафёры весці адну машыну. Таму форма, пры якой у рамках школы з эканамічным ухілам існуюць і агульнаадукацыйныя класы, хаця і з'яўляецца на сёння пераважнай, але — і недасканалай.

І гэтым яшчэ далёка не вычэрпваецца шэраг праблем, звязаных са станаўленнем і развіццём школьнай эканамічнай адукацыі. Аб іх — у нашай далейшай размове.

**Аляксей ДАНІЛЬЧАНКА,**
кандыдат эканамічных навук, дацэнт,
загадчык лабараторыі гістарычнай і
сацыяльна-эканамічнай адукацыі
Нацыянальнага інстытута адукацыі.

ВЫКЛАДЧЫКУ ГІСТОРЫІ

# Так вынішчалася вера

(Заканчэнне. Пачатак у №55).

## "ДЛЯ ХУТКАГА НАНЯСЕННЯ АПЕРАТЫЎНАГА ЎДАРУ"

У пачатку 30-х гадоў Савецкая дзяржава пачынае самую маштабную кампанію па барацьбе "з рэлігійным адурманьваннем працоўных мас". Паколькі меры эканамічнага і палітычнага ўздзеяння на вернікаў, прынятыя ў 20-я гады, чакаемага эфекту не далі, дзяржава ставіць задачу "знішчэння рэлігіі наогул". Другая пяцігодка развіцця народнай гаспадаркі СССР атрымлівае афіцыйную назву "бязбожнай". Ажыццяўляецца масавае закрыццё храмаў, фізічнае знішчэнне духавенства.

У Царквы забіралі апошняе. 8 сакавіка 1930 г. пастановай НКУС і НК Фінансаў БССР быў устаноўлены новы парадак размеркавання маёмасці пры ліквідацыі дамоў рэлігійных культаў. Золата, парча, каштоўныя металы і камяні перадаваліся прадстаўнікам фінансавых органаў з наступнай рэалізацыяй іх Дзяржбанкам. Мастацкія і музейныя каштоўнасці адразу забіралі прадстаўнікі НК асветы. Астатняе — мэблю, люстры і інш. — перадавалі ў дзяржаўныя і кааператыўныя арганізацыі. Званы аддаваліся за плату (як каляровы металалом) Рудметалгандлю. Усе атрыманыя ад рэалізацыі царкоўнай маёмасці грошы ішлі ў даход дзяржавы, з іх 50 працэнтаў — у мясцовыя бюджэты, каб заахвоціць мясцовыя Саветы.

29 красавіка Савет Працы і Абароны прыняў Пастанову "Аб нарыхтоўцы бронзы са званоў у 1934 г.". Па разнарадцы, якая ўстанаўлівалася для ўсіх абласцей і краёў, а таксама БССР, УССР і Закаўказскай рэспублікі, Беларусі трэба было здаць яе 100 тон. Аднак у верасні 1934 г. саюзнае кіраўніцтва прымае новае рашэнне, сачыць за выкананнем якога даручана ўжо органам НКУС. "На Беларусь дадзена разнарадка нарыхтоўкі бронзы са званоў у колькасці 150 тон, якая павінна быць нарыхтавана да 31 снежня 1934 г. і адгружана на завод імя Молатава ў Маскве...", — перадаваў загад Масквы наркам НКУС БССР у СНК БССР і ЦК КП(б)Б.

З Мінска, Веткі, Касцюковічаў, Лоева, Мазыра, Парычаў, Чашнікаў, Чэрыкава забіралася па 5 тон бронзы; з Гомеля, Горак, Слуцка па 10 тон і г.д. Звон больш не раздражняў "камуністычны слых" у Беларусі.

У дваццатыя гады закрытыя цэрквы пераабсталёўваліся пад сельскія клубы, у большасці ж стаялі пустымі. У жніўні 1934 г. СНК БССР прыняў спецыяльную пастанову аб выкарыстанні малітоўных дамоў пад збожжасховішчы. ЦК КП(б)Б, зацвярджаючы гэта рашэнне, зрабіў агаворку: "мясцовыя раённыя арганізацыі праводзяць гэтую справу без якіх-небудзь інцыдэнтаў". Усё павінна быць ціха.

Аднак "ціха" закрыццё цэркваў не праходзіла. Сведчанне таму — справаздачы АДПУ, накіраваныя ў ЦК КП(б)Б.

12 сакавіка 1930 г. у вёсцы Сухараўка Лупольскага раёна Магілёўскай акругі ў час зняцця абразоў сакратаром партячэйкі і камсамольцамі адбылася перастрэлка. Арыштавана 10 чалавек. У гэты ж дзень у сяле Веляшкевічы Лёзненскага раёна натоўп у 500 чалавек ледзь не разарваў настаўніка і рабочых, якія пачалі перабудову царквы пад клуб. 13 лютага ў вёсцы Ляскавічы Петрыкаўскага раёна сход беднаты прыняў рашэнне канфіскаваць царкву і выкарыстаць яе пад склад для насеннага фонду, што было адразу зроблена. Натоўп вернікаў з абурэннем выкінуў збожжа.

Супраціўленне насельніцтва, аднак, мала трывожыла ўлады. Як правіла, на месца здарэння выклікаліся міліцыя, супрацоўнікі АДПУ. Зачыншчыкаў арыштоўвалі, аддавалі пад суд і адпраўлялі ў лагеры або расстрэльвалі.

На 20 снежня 1936 г. пад клубы было занята 855 малітоўных дамоў, аддадзена пад збожжасклады або разбурана 1006, пустымі стаялі 238.

Паводле даных НКУС, у дарэвалюцыйнай Беларусі было 1445 праваслаўных храмаў, 704 сінагогі, 148 касцёлаў і капліц. Да студзеня 1937 г. былі закрыты 1371 царква, 633 сінагогі, 95 касцёлаў. На 21 чэрвеня 1938 г., як дакладваў у Маскву наркам НКУС БССР Наседкін, дзеючых цэркваў засталося толькі дзве — у Оршы і ў Мазыры.

Галоўны ўдар, аднак, дзяржава сканцэнтравала супраць духавенства. Ганенні на свяшчэннаслужыцеляў на месцах асабліва ўзмацніліся пасля пачатку калектывізацыі. Сабраныя спецслужбамі звесткі былі пушчаны "ў справу". Ужо да 30 мая 1930г. Тройкай ПП АДПУ па БССР асуджаны 93 "царкоўнікі", 25 з іх расстраляны, 68 адпраўлены ў канцлагеры. Усяго па СССР да гэтага часу праз Тройкі прайшлі 4016 прадстаўнікоў духавенства, з якіх 560 былі расстраляны, 2289 зняволены ў лагеры.

У пачатку 30-х гадоў, "каб пакончыць з рэлігіяй шляхам выжывання папа", выкарыстоўваліся падаткавае пераабкладанне духавенства, раскулачванне, устанаўленне высокіх нормаў разверсткі нарыхтовак збожжа, бульбы, ільну і г.д. на свяшчэннаслужыцеляў. Ажыццяўлялася ўсё гэта па ініцыятыве мясцовай улады, якая і вызначала норму пакарання за невыкананне. Свяшчэннік ніколі не ведаў, колькі яму трэба ўплаціць падатку, які назначаўся без уліку рэальных магчымасцяў, і ўвесь час павялічваўся. Часта служачыя наўмысна завышалі стаўкі падаткаў — для перастрахоўкі, каб не абвінавацілі "ў правым ухіле". Так, свяшчэннік царквы ў Чэрвеньскім раёне быў абкладзены ў 1972 рублі, у той час як яго даходы пры максімальным падлічэнні не перавышалі 50 рублёў у месяц. Асабліва вызначалася ў справе эканамічнага знішчэння царкоўніка Віцебская акруга. "На пачатак 1930 г. на ўсю акругу засталося не больш як 15 праваслаўных свяшчэннікаў, а каля 30 чалавек асуджаны нарсудом да пазбаўлення свабоды як злосныя падатканеплацельшчыкі", — рапартавалі віцябчане ў Мінск.

Арышты свяшчэннаслужыцеляў праводзілі работнікі сельсаветаў, брыгадзіры, "асобныя партыйцы", камсамольцы. "Злосныя" неплацельшчыкі падаткаў караліся строга: як правіла, ім прысуджалі ад 1 да 5 гадоў выпраўленча-працоўных лагераў. А калі пры арышце свяшчэнаслужыцель выказваў хаця б прыкметы абурэння, пакаранне павялічвалася: за антысавецкую агітацыю прысуджалі да 10 гадоў лагераў.

У другой палове 30-х гадоў органы НКУС, у якіх канцэнтравалася ўся інфармацыя аб служыцелях рэлігійных культаў, правялі масавыя арышты. З 1937 па чэрвень 1938 г. у Беларусі было арыштавана 3247 "царкоўнікаў" і сектантаў, з іх 400 чалавек праваслаўных свяшчэннікаў і манахаў, 1 мітрапаліт, 5 епіскапаў і архіепіскапаў.

Паводле даных, складзеных у 1936 г. магілёўскім каталіцкім епіскапам Невё, з 853 каталіцкіх свяшчэннаслужыцеляў у СССР засталося 16, больш як 300 епіскапаў і ксяндзоў расстраляны, з усіх касцёлаў і капліц дзейнічала толькі 30.

З НКУС БССР у ЦК КП(б)Б паступалі звесткі аб тым, што рэлігійныя абрады і службы вернікі праводзілі самі, без свяшчэннаслужыцеляў. Так, у Рагачове жанчыны Лашакова (50 гадоў), Вішнеўская (45 гадоў), Канавальчыкава (75 гадоў), Гісель (20 гадоў) хадзілі па дамах і рабілі абрады адпявання, хрышчэння дзяцей. У с.Лучына Рагачоўскага раёна гэта рабілі манахіні. Змагацца з народнымі свяшчэннаслужыцелямі было цяжка. Таму 24 чэрвеня 1938 г. наркам НКУС БССР Наседкін піша ў ЦК ВКП(б): "Для хуткага нанясення аператыўнага ўдару па антысавецкім царкоўным актыве і для антырэлігійнага разлажэння адсталых рэлігійных мас лічым неабходным дапусціць аднаўленне службаў у шэрагу цэркваў (10—12), якія функцыяніруюць і пытанне аб якіх не ўзнімалася". Прарочымі аказаліся словы Слуцкага епіскапа Шамяцілы М.І., запісаныя ім уласнаручна ў пратакол допыту ў 1933 г.: "Дадаю: што хоць цара і кулака няма, але папоў Савецкая ўлада ніколі не знішчыць, бо калі адных папоў арыштуе, то знізу, з масы, будуць вырастаць новыя асобы духоўнага звання. Само жыццё гэтага перыяду характэрна нейкай стыхіяй, усюды народ рабуюць, узрастае злачыннасць, але настане час, што Савецкая ўлада звернецца за дапамогай для рэлігійна-маральнага выхавання народа да духавенства. Ніякая зброя ўсяго гэтага не знішчыць. У чым і распісваюся: Шамяціла".

Барацьба дзяржавы з Царквою, якая вялася з усведамленнем бачнай законнасці, на самай справе закон поўнасцю выключала. Свяшчэннаслужыцелі ўсіх канфесій, калі яны не давалі згоды супрацоўнічаць са спецслужбамі, адбывалі тэрмін пакарання поўнасцю, пад амністыю траплялі толькі смяротэльна хворыя і непрацаздольныя інваліды. Свяшчэннікам было адмоўлена ў рэабілітацыі і ў 1956 г., і ў 1961-м. Толькі ў 1989 годзе было адноўлена добрае імя часткі нявінна пацярпелых, працэс рэабілітацыі не закончаны і да 1994 г.

Барацьба дзяржавы з Царквою мела трагічныя вынікі для савецкага народа. Камуністычная ідэалогія не магла замяніць велізарны маральны патэнцыял, якім валодаюць тэксты Біблії. Духоўнасць некалькіх пакаленняў аказалася стратнай, пазбаўленай веры, хрысціянскай маралі. Вынікам дзяржаўнай барацьбы з Царквою ўжо ў 30-я гады стаў рост злачыннасці, бытавое разлажэнне, з якімі дзяржава вымушана была змагацца. Стваралася ганебнае кола, разарваць якое ўдалося толькі ў пачатку 90-х гадоў.

Вынікі "бязбожных пяцігодак", масавае знішчэнне нацыянальнага духавенства, закрыццё на тэрыторыі Беларусі цэнтраў падрыхтоўкі свяшчэннаслужыцеляў у пэўнай ступені паставілі Царкву па-за працэсамі адраджэння і станаўлення нацыянальнай культуры. Аднак у барацьбе з таталітарнай дзяржавай-маналітам, якая ўзрушыла свет сваёй ваеннай магутнасцю, Царква выстаяла.

**Таццяна ПРОЦЬКА,**
кандыдат філасофскіх
навук, старшы навуковы
супрацоўнік Інстытута
гісторыі Акадэміі навук.

